ЗМЕСТ

# СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2018 годзе (АГЛЯД)

Цягам 2018 г. у Беларусі ўзмацніўся ціск на незалежныя медыі і журналістаў. Гэта адбывалася, нягледзячы на дэкляраваны ўладамі курс на лібералізацыю і дыялог аб правах чалавека з Еўрасаюзам і ЗША.

Сярод асноўных падзей і тэндэнцый 2018 г. можна вылучыць наступныя:

- змяненне заканадаўства ў сферы СМІ ў бок узмацнення жорсткасці дзяржаўнага кантролю;
- крымінальны пераслед, звязаны са свабодай выказвання меркавання (справа "рэгнумаўцаў"; ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць блогера Пятрухіна; справа кіраўніка інфармацыйнага агенцтва "БелаПАН" Алеся Ліпая, спыненая ў сувязі з яго смерцю; "справа БелТА", якая скончылася асуджэннем галоўнага рэдактара папулярнага беларускага інтэрнэт-рэсурсу TUT.BY Марыны Золатавай);
- пазасудовае блакаванне ў Беларусі папулярных інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў;
- узмацненне ціску на журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі);
- выкарыстанне заканадаўства аб супрацьдзеянні экстрэмізму для абмежавання свабоды выказвання меркавання (у першую чаргу – у сетцы Інтэрнэт).

Гэтыя дзеянні ўладаў былі, хутчэй, не "новай атакай на СМІ", а працягам мэтанакіраванай і паслядоўнай палітыкі беларускай дзяржавы, накіраванай на ўсталяванне максімальнага кантролю над інфармацыйнай прасторай краіны. У 2018 г. першачарговай мэтай стаў "беларускі сегмент Інтэрнэту".

Узяўшы цалкам пад кантроль тэлебачанне і радыёвяшчанне (за выключэннем некалькіх замежных СМІ, што працуюць у краіне, у тым ліку польскі тэлеканал "Белсат", выціснуўшы ў аўдыторнае гета незалежныя друкаваныя СМІ, сукупны тыднёвы наклад якіх меньш за штодзённы наклад газеты Адміністрацыі прэзідэнта "СБ. Беларусь сегодня", улады спрабуюць узмацніць кантроль і над беларускім сегментам Інтэрнэту, у якім дзяржаўныя медыі відавочна прайграюць незалежным рэсурсам.

Між тым, па выніках апытання Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта, Інтэрнэт як крыніца інфармацыі па папулярнасці ў Беларусі даганяе тэлебачанне.

Вядучы беларускі партал TUT.BY с велізарным адрывам (у дзясяткі разоў) апярэджвае па папулярнасці дзяржаўныя інтэрнэт-рэсурсы, уключаючы інфармацыйнае агенцтва БелТА (што, верагодна, і стала сапраўднай прычынай "справы БелТА", накіраванай, у першую чаргу, супраць канкурэнтаў гэтага дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва).

Спробы пэўных колаў ва ўладзе вырашыць праблему Інтэрнэту ўзмацненнем жорсткасці дзяржаўнага кантролю над ім ўспрымаецца экспертамі як стратэгічная памылка з пункту гледжання нацыянальнай бяспекі ў медыясферы.

Выцісканне з інфармацыйнай прасторы незалежных СМІ прывядзе не да росту папулярнасці дзяржаўных СМІ, а да ўзмацнення прысутнасці тут расейскіх медыяў, ступень уплыву якіх на аўдыторыю сёння і без таго вялікая: больш за 60 адсоткаў прадукцыі некаторых вядучых беларускіх тэлеканалаў, уключаных урадам у агульнадаступны абавязковы тэлепакет, – расейскай вытворчасці. Замест спробаў заглушыць незалежныя галасы, улады, хоць бы з пачуцця самазахавання, павінныя былі б садзейнічаць развіццю недзяржаўных медыяў у Беларусі.

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

У чэрвені 2018 г. Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь (беларускі парламент) прыняў закон аб унясенні зменаў у заканадаўства аб СМІ, які істотна пашырае дзяржаўны кантроль над інтэрнэт-прасторай у Беларусі.

Закон, у прыватнасці:

– уводзіць добраахвотную рэгістрацыю інтэрнет-рэсурсаў у якасці СМІ, аднак захоўвае неабгрунтавана складаны дазваляльны парадак гэтай рэгістрацыі;

– пазбаўляе інтэрнэт-рэсурсы, якія не змаглі прайсці бар'ер рэгістрацыі, правоў СМІ, а іх карэспандэнтаў – журналісцкага статусу; пры гэтым распаўсюджвае на іх усе меры адказнасці, прадугледжаныя Законам аб СМІ;

– захоўвае пазасудовы парадак блакавання інтэрнэт-рэсурсаў міністэрствам інфармацыі і ўводзіць дадатковыя падставы для гэтага (напрыклад, выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсу для ажыццяўлення забароненай у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь дзейнасці);

– абавязвае інтэрнэт-рэсурсы ідэнтыфікаваць каментатараў на сваіх старонках і на форумах і праводзіць мадэрацыю каментароў пад пагрозай адказнасці за іх.

Папраўкі да заканадаўства аб СМІ крытыкаваліся прафесійнай супольнасцю:

Занепакоенасць што да гэтых папраўак выказаў і Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлем Дэзірэ. "Шмат якія з палажэнняў з'яўляюцца празмернымі і непрапарцыйнымі і могуць прывесці да абмежавання свабоды выказвання меркаванняў", – гаворыцца ў яго заяве.

Новыя нормы, што зацвярджаюць дадатковую адказнасць уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў, ўнесеныя таксама ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях (арт. 22.9 "Парушэнне заканадаўства аб СМІ"). За распаўсюд "забароненай" інфармацыі усталёўваецца штраф, максімальны памер якога для сайтаў, зарэгістраваных у якасці СМІ, складае 200 базавых велічынь (каля 2000 еўра), а для інтэрнэт-рэсурсаў, якія не маюць статусу СМІ – 100 базавых велічынь. Між тым пералік забароненай інфармацыі і падыходы да яе вызначэння ў заканадаўстве адсутнічаюць. Кантроль за выкананнем заканадаўства аб СМІ ў гэтай сферы ускладаецца на супрацоўнікаў міліцыі.

# КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД, СПАЛУЧАНЫ СА СВАБОДАЙ ВЫКАЗВАННЯ

## "Справа рэгнумаўцаў"

2 лютага Мінскі гарадскі суд вынес абвінаваўчы прысуд па крымінальнай справе супраць трох беларускіх аўтараў, якія публікаваліся ў расейскіх СМІ: Юрыя Паўлаўца, Дзмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыптэнкі (так званая "справа рэгнумаўцаў" – па назве расейскага інфармацыйнага агенцтва REGNUM, дзе публікаваліся іх артыкулы). Суд прызнаў іх вінаватымі ў наўмысных дзеяннях, накіраваных на распальванне нацыянальнай варожасці або розні, здзейсненых групай асобаў (частка 3 артыкула 130 Крымінальнага кодэкса), і прызначыў пакаранне ў выглядзе пяці гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на тры гады. Асуджаныя былі вызваленыя ў зале суду. Калі

цягам тэрміну адтэрміноўкі яны не парушаць грамадскі парадак і будуць выконваць загады суда, ён можа вызваліць іх ад адбыцця пакарання.

Падставай для распачынання "справы рэгнумаўцаў" стаў зварот у Следчы камітэт Міністэрства інфармацыі аб наяўнасці ў публікацыях гэтых аўтараў прыкмет праявы экстрэмізму. Абвінавачаныя знаходзіліся пад вартай 14 месяцаў – з моманту затрымання ў снежні 2016 г.

*«Гэты прысуд быў бы дарэчны для небяспечных злачынцаў, каб стрымаць іх ад паўторнага здзяйснення злачынства, але не для блогераў, якія былі прыцягнутыя да адказнасці за выказванне супярэчлівых поглядаў,* – заявіў Ёган Бір, кіраўнік аддзела Рэпарцёраў без межаў па Усходняй Еўропе і Цэнтральнай Азіі. – *У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі свабоды выказвання меркаванняў, няма падстваў для такога несуразмернага прысуду. Мы заклікаем да таго, каб гэтыя прысуды былі адмененыя па апеляцыі».*

Ю. Паўлавец і С. Шыптэнка абскардзілі прысуд, аднак Вярхоўны суд пакінуў яго ў сіле.

## Справа кіраўніка «БелаПАН» Алеся Ліпая

12 чэрвеня 2018 г. была распачатая крымінальная справа ў дачыненні да кіраўніка вядучага беларускага незалежнага інфармацыйнага агенцтва "БелаПАН" Алеся Ліпая па факце наўмыснага ўхілення ад выплаты падаходнага падатку ў асабліва буйным памеры за 2016-2017 гады (ч. 2 арт 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). У кватэры А. Ліпая быў зроблены вобшук, падчас якога канфіскавалі дакументы і прафесійнае абсталяванне. Беларускія праваабарончыя арганізацыі заявілі аб палітычнай падаплёцы справы і звязалі яе з агульнай тэндэнцыяй узмацнення ціску на недзяржаўныя СМІ і інтэрнэт-рэсурсы ў Беларусі.

Узбуджэнне напачатку жніўня "справы БелТА", па якой былі абвінавачаныя і два вядучых супрацоўніка "БелаПАН", пацвердзіла гэтую выснову.

Неўзабаве, 23 жніўня, Алесь Ліпай памёр ва ўзросце 52 гадоў. У сувязі з яго смерцю 12 верасня крымінальная справа ў дачыненні да яго была спыненая.

## «Справа БелТА» і крымінальны пераслед галоўнага рэдактара партала "TUT.by" Марыны Золатавай

7-9 жніўня ў рэдакцыях інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, партала TUT.BY і realt.by, некаторых іншых СМІ, якія не пажадалі апублічваць інфармацыю, а таксама ў кватэрах шэрагу іх супрацоўнікаў прайшліператрусы. Падчас іх былі канфіскаваныя прафесійная тэхніка і носьбіты інфармацыі. Каля 20 журналістаў былі затрыманыя і дапытаныя следчымі, 8 – адпраўленыя ў ізалятар часовага ўтрымання на тэрмін да 3-х сутак.

Нагодай для маштабнай "спецаперацыі" стала несанкцыянаванае выкарыстанне некаторымі журналістамі пароляў да падпісной стужкі сайта дзяржаўнага агенцтва БелТА. Неабходна адзначыць, што матэрыялы сайта БелТА знаходзяцца ў адкрытым бясплатным доступе і размяшчаліся СМІ, якія трапілі пад ціск, з улікам правіл, устаноўленых БелТА.

Тым не меньш, у дачыненні да 15 журналістаў былі распачатыя крымінальныя справы па ч. 2 арт. 349 Крымінальнага кодэксу (несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, які пацягнуў прычыненне істотнай шкоды).

Дзеянні следчых выклікалі пратэсты з боку праваабаронцаў, журналісцкіх арганізацый і міжнародных структур (у тым ліку Рады Еўропы, Еўрасаюза, Прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ).

Напрыканцы 2018 г. крымінальныя справы ў дачыненні да 14 журналістаў былі спыненыя з прыцягненнем іх да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе буйных штрафаў і фактычным прымусам да выплаты кампенсацый дзяржаўным медыя – БелТА і газеце Адміністрацыі прэзідэнта "СБ. Беларусь сегодня". Памеры кампенсацый ваганіся ад 3000 да 17000 руб (ад 1250 да 7000 еўра). БАЖ лічыць выплату кампенсацый вымушаным крокам з боку журналістаў у пазбяганне значна больш жорсткага пакарання па крымінальным артыкуле і іншых неспрыяльных наступстваў, звязаных з крымінальнай адказнасцю.

Адзіным абвінавачаным, прыцягнутым па справе "БелТА" да крымінальнай адказнасці, стала галоўны рэдактар інтэрнэт-партала TUT.BY https://www.tut.by/ Марына Золатава. Прычым, яна была абвінавачаная па іншым артыкуле – бяздзейнасць службовай асобы (арт. 425 Крымінальнага кодэкса).

4 сакавіка суд Завадскога раёна Мінска прызнаў М. Золатаву вінаватай і прысудзіў яе да штрафу ў 7 650 беларускіх рублёў (больш за 3000 еўра па курсе Нацбанка), а таксама спагнаў на карысць БелТА працэсуальныя выдаткі ў памеры 6 000 рублёў (2500 еўра).

"Прысуд і штраф Марыне Золатавай, галоўнаму рэдактару TUT.BY, разам з непрапарцыйнымі мерамі праваахоўных органаў супраць БелаПАН і TUT.BY у 2018 годзе, могуць негатыўна паўплываць на незалежныя СМІ ў Беларусі", – адзначыў прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлем Дэзірэ. "Тое, як беларускія ўлады настойліва займаліся гэтай справай ад самага пачатку, паказвае іх рашучасць падарваць канкурэнтаў дзяржаўных СМІ", – заявілі "Рэпарцёры без межаў» пасля асуджэння М.Золатавай.

## Абмежаванне доступу да інтэрнет-рэсурсаў

24 студзеня 2018 г. Міністэрства інфармацыі прыняло рашэнне аб абмежаванні доступу да папулярнага інтэрнет-рэсурсу charter97.org

Гэтае рашэнне Мініфарм абгрунтаваў размяшчэннем на сайце забароненай інфармацыі. У якасці такой міністэрства палічыла "матэрыялы, якія змяшчаюць інфармацыю, распаўсюд якой здольны нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, … артыкула з указаннем даты і месца правядзення масавага мерапрыемства, дазволу на правядзенне якога на момант размяшчэння публікацыі атрымана не было, … распаўсюджванне праз сайт charter97.org інфармацыйнай прадукцыі рэсурсу, якія рашэннем суда прызнаны экстрэмісцкім матэрыялам і ўнесены ў рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" адзначыла, што блакаванне сайта charter97.org – другое цягам месяца рашэнне Міністэрства інфармацыі аб абмежаванні доступу на тэрыторыі Беларусі да папулярных інфармацыйных рэсурсаў (напрыканцы снежня 2017 г. было прынятае рашэнне аб блакаванні сайта belaruspartisan.org). У абодвух выпадках рашэнні аб абмежаванні доступу да сайтаў прымаліся непразрыста, у пазасудовым парадку, без апавяшчэння, якія менавіта матэрыялы сталі падставай для блакавання.

## Выкарыстанне «антыэктрымісцкага» заканадаўства дзеля абмежавання свабоды

У 2018 годзе павялічылася колькасць выпадкаў прыцягнення журналістаў і актывістаў да адміністрацыйнай адказнасці за публікацыі ў сацыяльных сетках. Падставай для гэтага выкарыстоўваўся арт. 17.11. Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, што прадугледжвае адказнасць за распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе такую дзейнасць.

Журналіст-фрылансер Аляксандр Дзянісаў быў аштрафаваны на 612,5 беларускіх рублёў за рэпост двух відэа пра ўдзел брэсцкіх анархістаў у пратэстнай акцыі 2017 г. «Марш дармаедаў».

Аляксандр Горбач і Мікалай Дзядок былі аштрафаваныя за размяшчэнне ў сацсетках сімвалаў, прызнаных экстрэмісцкімі. Пры гэтым абодва яны ў сваіх матэрыялах, насупраць, крытыкавалі праявы неанацызму. Так, М. Дзядок быў аштрафаваны за допіс, у якім асуджаў фатаграфаванне вядомых у Беларусі асобаў з сябрамі групоўкі, эмблема якой прызнана ў Беларусі экстрэмісцкай (у матэрыяле ў якасці ілюстрацыі былі прыведзеныя гэтыя фатаграфіі).

## Штрафы за супрацоўніцства з замежнымі медыямі

Ўзмацніўся перасьлед журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў. Суды штрафавалі журналістаў на падставе часткі 2 артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Частка 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ. На думку БАЖ, журналісты не павінныя прыцягвацца да адказнасці па гэтым артыкуле, паколькі суб'ектам адказнасці па ёй з'яўляюцца не журналісты, а рэдакцыі СМІ.

За 2018 год журналісты прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці па гэтым артыкуле не менш за 118 разоў (што больш, чым за чатыры папярэднія гады агулам). Агульная сума штрафаў перавысіла 100 тыс. беларускіх рублёў (каля 43 тыс. еўра).

У 2018 годзе ў абсалютнай большасці выпадкаў пераследваліся журналісты, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат". "Белсат" уваходзіць у структуру Польскага тэлебачання, але пазіцыянуе сябе як першы незалежны тэлеканал Беларусі

## Павелічэнне фінансавання дзяржаўных медыяў

30 снежня 2018 г. быў падпісаны закон "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2019 год". У адпаведнасці з ім на фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі у 2019 г. вылучаецца 151 211 151 руб. (каля 63 млн. еўра). Гэта амаль на трaціну больш, чым у папярэднія гады. Вылучэнне сродкаў адбываецца на пазаконкурснай аснове.

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Freedom House ў сваім рэйтынгу свабоды ў свеце 2018 аднесла Рэспубліку Беларусь да несвабодных краінаў і мінімальна ацаніла ступень свабоды СМІ і свабоды інтэрнэту ў краіне (1 бал з 4). Пры гэтым "Press Freedom Status" і "Net Freedom Status" дзяржавы вызначаныя як "Not Free".

У чарговым рэйтынгу свабоды прэсы міжнароднай арганізацыі "Рэпарцёры без межаў", апублікаваным у красавіку 2018 г., Беларусь заняла 155 месца сярод 180 дзяржаў, страціўшы дзве пазіцыі ў параўнанні з папярэднім рэйтынгам.

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

28 **чэрвеня** Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі ўхваліў папраўкі ў Закон **"Аб сродках масавай інфармацыі"** (іх уступленне ў сілу адбылося 1 снежня), якія істотна пашырылі дзяржаўны кантроль над інтэрнэт-прасторай у Беларусі, распаўсюдзіўшы дзеянне закона на ўсе інтэрнэт-рэсурсы.

Згодна з гэтымі папраўкамі:

- закон дапоўнены новымі дэфініцыямі: "інтэрнэт-рэсурс", "уладальнік інтэрнэт-рэсурса", "маніторынг масавай інфармацыі", "сеткавае выданне";
- уводзіцца добраахвотная рэгістрацыя інтэрнэт-рэсурсаў у якасці сеткавага выдання (пры гэтым незарэгістраваныя інтэрнэт-рэсурсы сродкамі масавай інфармацыі не з'яўляюцца);
- упершыню замацоўваюцца правы і абавязкі ўладальніка інтэрнэт-рэсурса (арт. 30-1); у ліку абавязкаў – не дапускаць размяшчэнне інфармацыйных паведамленняў і (або) матэрыялаў (у тым ліку каментаванне) іншымі карыстальнікамі без іх папярэдняй ідэнтыфікацыі; праводзіць мадэрацыю усіх публікацый пад пагрозай адказнасці за іх змест і неадкладна выдаляць па патрабаванні Міністэрства інфармацыі тыя з іх, якія супярэчаць патрабаванням Закона аб СМІ;
- пералік функцый Міністэрства інфармацыі пашыраны за кошт "маніторынга масавай інфармацыі", які надае права запытваць ва ўладальніка інтэрнэт-рэсурса і пастаўшчыка інтэрнэт-паслуг звесткі, неабходныя для аналізу інфармацыі, размешчанай на інтэрнэт-рэсурсе, у тым ліку ідэнцыфікацыйныя дадзеныя наведнікаў;
- ўводзіцца дадатковая падстава для блакавання доступу да інтэрнэт-рэсурсаў – выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсу для ажыццяўлення дзейнасці, якая забаронена ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь;
- пашыраны пералік відаў інфармацыі, распаўсюджванне якой забаронена – у яго ўключаная інфармацыя, якая заахвочвае да самагубства, неналежная рэклама, інфармацыя пра спосабы вырабу выбуховых прылад і выбуховых рэчываў, звесткі пра непаўналетніх, якія пацярпелі ў выніку супрацьпраўных дзеянняў;
- уключаны артыкул 51-2 "Аднаўленне доступу да інтэрнэт-рэсурса, сеткавага выдання";
- прадугледжваецца забарона засноўваць СМІ для замежнікаў, замежных юрыдычных асобаў, беларускіх юрыдычных асобаў, па меншай меры 20% акцый якіх належаць замежным або міжнародным арганізацыям, а таксама асобаў без грамадзянства.

30 **ліпеня** былі ўнесеныя дапаўненні ў **Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях** і **Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь.** Артыкул 22.9 КаАП ("Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі") быў дапоўнены часткамі 3-1 і 3-2, згодна з якімі за распаўсюд забароненай інфармацыі ўсталёўваецца штраф, максімальны памер якога для сайтаў, зарэгістраваных у якасці СМІ, складае 200 базавых велічыняў (больш як 2000 еўра), а для інтэрнэт-рэсурсаў, якія не маюць статусу СМІ, — 100 базавых велічыняў. Кантроль за выкананнем заканадаўства аб СМІ ў гэтай галіне ўскладаецца на супрацоўнікаў міліцыі.

31 **ліпеня** з'явіўся ўказ прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі **«Аб пытаннях сродкаў масавай інфармацыі»**. Гэтым дакументам уносяцца змены ва ўказ ад 17 мая 2011 г. «Аб падтрымцы асобных СМІ і некаторых арганізацый». У старой рэдакцыі выкарыстоўвалася наступная фраза: *«правядзенне дзяржаўнай палітыкі праз СМІ».*

Указ быў дапоўнены тлумачэннем, што менавіта маецца на ўвазе пад гэтым пунктам: *«Пад правядзеннем дзяржаўнай палітыкі праз сродкі масавай інфармацыі разумеецца стварэнне рэдакцыямі па замовах дзяржаўных органаў інфармацыйных паведамленняў і (або) матэрыялаў, тэле- і (або) радыёперадач, накіраваных на забеспячэнне дзяржаўных і грамадскіх інтарэсаў, а таксама іх распаўсюд праз СМІ, у тым ліку праз інтэрнэт».*

3 **кастрычніка** пастановай Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь было зацверджана **Палажэнне аб парадку абмежавання (аднаўлення) доступу да інтэрнэт-рэсурсу.** Ім устанаўліваецца парадак абмежавання і аднаўлення доступу да інтэрнэт-рэсурсу па рашэнні Міністэрства інфармацыі, што прадугледжана артыкуламі 51-1 і 51-2 Закона «Аб сродках масавай інфармацыі».

23 **лістапада** Савет Міністраў зацвердзіў **Палажэнне аб парадку папярэдняй ідэнтыфікацыі карыстальнікаў інтэрнэт-рэсурсу, сеткавага выдання**, прынятае ў сувязі з унясеннем зменаў у Закон аб СМІ. Згодна з ім, папярэдняя ідэнтыфікацыя карыстальніка ажыццяўляецца пры рэгістрацыі ім уліковага запісу на інтэрнэт-рэсурсе шляхам заключэння карыстальніцкага пагаднення. Карыстальніцкае пагадненне павінна ўтрымліваць папярэджанне аб недапушчальнасці размяшчэння на інтэрнэт-рэсурсе інфармацыі, распаўсюд якой забаронены заканадаўствам. Уладальнік інтэрнэт-рэсурсу актывуе ўліковы запіс карыстальніка, даслаўшы код актывацыі ў СМС-паведамленні на паказаны пры запаўненні пагаднення нумар мабільнага тэлефона або з выкарыстаннем іншых ідэнтыфікацыйных дадзеных і тэхнічных сродкаў, якія дазваляюць ідэнтыфікаваць асобу карыстальніка.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Крымінальныя справы

2 **лютага** Мінскі гарадскі суд вынес абвінаваўчы прысуд па крымінальнай справе супраць трох беларускіх аўтараў, матэрыялы якіх публікаваліся на сайце інфармацыйнай агенцыі REGNUM, а таксама ў шэрагу іншых расійскіх СМІ, – **Юрыя Паўлаўца, Дзмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыптэнкі.** Суд пастанавіў прызнаць іх вінаватымі ў наўмысных дзеяннях, накіраваных на распальванне нацыянальнай розні, здзейсненай групай асобаў (частка 3 артыкула 130 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь), і прызначыў пакаранне ў выглядзе пяці год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на тры гады. Асуджаныя былі вызваленыя ў зале суда. Калі на працягу тэрміну адтэрміноўкі яны не здзейсняць парушэнняў грамадскага парадку і будуць выконваць прадпісанні суда, то могуць быць вызваленыя ад адбывання пакарання па рашэнні суда.

Падставай для ўзбуджэння "справы рэгнумаўцаў" стаўся зварот у Следчы камітэт Міністэрства інфармацыі пра наяўнасць у публікацыях гэтых аўтараў праяваў экстрэмізму. Абвінавачаныя знаходзіліся пад вартай 14 месяцаў – з моманту затрымання ў снежні 2016 г.

*"Гэты прысуд быў бы дарэчны для небяспечных злачынцаў, каб стрымаць іх ад паўторнага здзяйснення злачынства, але не для блогераў, якія былі прыцягнутыя да адказнасці за выказванне супярэчлівых поглядаў"*, – заявіў Ёган Бір, кіраўнік аддзела "Рэпарцёраў без межаў" па Усходняй Еўропе і Цэнтральнай Азіі. *"У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі свабоды выказвання меркаванняў няма падставаў для такога несувымернага прысуду. Мы заклікаем да таго, каб гэтыя прысуды былі адмененыя паводле апеляцыі".*

14 чэрвеня **Ю. Паўлавец і С. Шыптэнка** абскардзілі прысуд, аднак Вярхоўны суд пакінуў яго ў сіле.

12 **чэрвеня** была ўзбуджаная крымінальная справа ў дачыненні да кіраўніка лідуючай незалежнай інфармацыйнай агенцыі БелаПАН **Алеся Ліпая**. Справа была ініцыяваная ўпраўленнем Дэпартаменту фінансавых расследаванняў па факце наўмыснага ўхілення ад выплаты падаходнага падатку ў асабліва вялікім памеры за 2016 – 2017 гады (ч.2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь), нягледзячы на тое, што Ліпай прызнаў парушэнне заканадаўства і выплаціў падаходны падатак і пеню ў памеры больш за 191 тысячу рублёў. Санкцыя згаданага артыкула прадугледжвае да 7 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Беларускія праваабарончыя арганізацыі заявілі пра палітычны матыў справы і звязалі яе з агульнай тэндэнцыяй узмацнення ціску на недзяржаўныя СМІ і інтэрнэт-рэсурсы ў Беларусі.

14 **чэрвеня** ў мінскай кватэры Алеся Ліпая быў праведзеныператрус. Супрацоўнікі міліцыі прад'явілі ордэр, падпісаны пракурорам і патлумачылі, што вобшук будзе праводзіцца ў сувязі з расследаваннем крымінальнай справы. Пасляператрусу Ліпай быў дастаўлены ў цэнтральны офіс Дэпартамента фінансавых расследванняў для допыту і вызвалены праз некалькі гадзін.

23 **жніўня** Алесь Ліпай памёр ва ўзросце 52 гадоў. Расследванне яго справы было спынена 12 **верасня** ў сувязі са смерцю.

24 **ліпеня** стала вядома, што ў адносінах да брэсцкага відэаблогера **Сяргея Пятрухіна** распачата крымінільная справа ў адпаведнасці з ч. 2 арт. 189 Крымінальнага кодэксу ("Абраза, нанесеная ў публічным выступе, альбо ў друкаваным ці публічна дэманстраваным творы, альбо ў сродках масавай інфармацыі"), санкцыя якога прадугледжвае штраф, або папраўчыя работы на тэрмін да двух гадоў, або арышт, або абмежаванне волі на тэрмін да трох гадоў.

*Раней брэсцкі блогер Сяргей Пятрухін неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. У прыватнасці, яго штрафавалі за відэаролікі для YouTube-канала "Народны рэпарцёр", калі разам з калегам з Бярозы Аляксандрам Кабанавым яны асвятлялі пратэсты супраць будаўніцтва пад Брэстам акумулятарнага завода "АйПаўэр".*

30 **жніўня** ў Пятрухіна адбыўся вобшук у рамках справы адразу па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу: частцы 2 арт. 188 (паклёп) і частцы 2 арт. 189 (абраза) (гл. падрабязней у *"Вобшукі, выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі і носьбітаў інфармацыі")*.

3 **верасня** С. Пятрухін быў затрыманы для прымусовага дастаўлення на псіхіятрычную экспертызу ў рамках крымінальнай справы за паклёп і абразу (*гл. падрабязней у "Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў"*).

26 **ліпеня** стала вядома, што супраць рэчыцкага блогера **Алега Шабетніка** была ўзбуджана крымінальная справа паводле ч. 2 арт. 188 Крымінальнага кодэкса. Ён падазраваўся ў паклёпе на начальніка раённай інспекцыі камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Мікалая Маісеенку. Канфлікт паміж прадпрымальнікам Шабетнікам і чыноўнікам адбыўся яшчэ 27 снежня 2017 г., пасля чаго А. Шабетнік апісаў сітуацыю на сваёй старонцы ў Facebook. Шабетнік заявіў пра пагрозы і незаконныя патрабаванні з боку Маісеенкі і, апроч паведамлення ў сацыяльнай сетцы, напісаў заяву ў праваахоўныя органы. Паводле яго словаў, гісторыя тады працягу не займела, але больш чым праз паўгады Следчы камітэт распачаў крымінальную справу на самога Шабетніка за паклёп.

7 **жніўня** стала вядома пра ўзбуджэнне Следчым камітэтам Рэспублікі Беларусь у дачыненні да шэрага журналістаў крымінальнай справы паводле ч. 2 арт. 349 Крымінальнага кодэкса (несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, які пацягнуў прычыненне істотнай шкоды), якая прадугледжвае ў якасці максімальнага пакарання пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў. Паводле афіцыйнай версіі, пры праверцы паведамлення дзяржаўнай інфармацыйнай агенцыі БелТА супрацоўнікі МУС выявілі шматлікія факты неправамернага доступу да яе кампутарнай інфармацыі (доступу да падпісной стужкі агенцыі пад чужымі паролямі). У заяве Следчага камітэта паведамлялася, што «да ўказанай супрацьпраўнай дзейнасці датычныя службовыя асобы выдавецкага дома «Беларуская навука», ЗАТ «БелаПАН», ТАА «Тут Бай Медыя».

7–9 **жніўня** ў рэдакцыях інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, інтэрнэт-парталаў TUT.BY і realt.by, а таксама ў кватэрах шэрага іх супрацоўнікаў прайшлі вобшукі, падчас якіх былі канфіскаваныя прафесійная тэхніка і носьбіты інфармацыі. Былі затрыманыя галоўны рэдактар БелаПАН Ірына Леўшына і міжнародны аглядальнік кампаніі Таццяна Каравянкова, галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава, а таксама рэдактары Ганна Калтыгіна, Галіна Уласік і Ганна Ермачонак, уласны карэспандэнт «Нямецкай хвалі» Паўлюк Быкоўскі, рэдактар інтэрнэт-сайта газеты «Беларусы і рынак» Аляксей Жукаў. Усе яны правялі па некалькі сутак пад вартай у ізалятары часовага ўтрымання. Перад вызваленнем з іх узялі падпіску пра неразгалошванне інфармацыі. Агулам па гэтай справе былі дапытаныя 18 чалавек.

Артыкул Крымінальнага кодэкса, па якім затрымлівалі журналістаў і праводзілі ў іх вобшукі, на самой справе скіраваны супраць хакераў, якія ўзломваюць сістэмы абароны кампутараў, а не супраць журналістаў, якім нехта з іх калегаў перадаў паролі. Да таго ж усе навіны БелТА, якое фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту і створана для распаўсюду ўрадавай інфармацыі (маючы пры гэтым прывілеі па доступе да гэтай інфармацыі), знаходзяцца ў адкрытым доступе. Падпіска дазваляе атрымліваць іх усяго на 15 хвілінаў раней, чым яны выстаўляюцца на сайт інфармагенцтва. TUT.BY і БелаПАН, якія зазналі найбольшы ціск, выконвалі ўсе ўстаноўленыя БелТА правілы выкарыстання іх інфармацыі пры яе выкладзе.

Напачатку лістапада абвінавачанымі па "справе БелТА" сталі 15 журналістаў і рэдактараў. Пасля прад'яўлення абвінавачанняў следчыя прапаноўвалі большасці з іх кампенсаваць фінансавую шкоду, нібыта прычыненую БелТА (і некаторым дзяржаўным СМІ, паролі якіх былі выкарыстаныя для ўваходу на стужку навінаў БелТА). Па словах следчых, гэта магло прывесці да спынення крымінальных справаў і перакваліфікавання іх у адміністрацыйныя (арт. 22.6 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях «Несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі» прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ад 20 до 50 базавых велічыняў, то бок прыблізна ад 500 да 1225 еўра). Памеры шкоды, прапанаваныя да кампенсацыі, і методыку іх разлікаў следчыя назвалі следчай таямніцай. Як паведамілі некаторыя журналісты, гэтыя сумы вагаліся ад 3000 да 17000 рублёў (ад 1250 да 7000 еўра). Большасць журналістаў прынялі рашэнне пагадзіцца на кампенсаванне шкоды і былі вызваленыя ад крымінальнага пераследу з прыцягненнем да адміністрацыйнай адканазці ў выглядзе значных штрафаў (акрамя кампенсацыі маёмаснай шкоды).

Адзінай асобай, справа якой была перададзеная ў суд, стала галоўны рэдактар TUT.by Марына Золатава. Яе абвінавацілі ў «бяздзеянні службовай асобы» (арт. 425 Крымінальнага кодекса). Два хадайніцтвы рэдактара аб спыненні крымінальнага пераследу ў дачыненні да яе былі адхіленыя Следчым камітэтам.

4 **сакавіка** суд Заводзкага раёну Менску прызнаў Марыну Золатаву вінаватай і пакараў штрафам у штрафам 300 базавых велічыняў (7650 рублёў), а таксама спагнаў на карысць БелТА працэсуальныя выдаткі у памеры 6000 рублёў (за паслугі двух адвакатаў БелТА).

## Іншыя судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

11 **студзеня** суддзя суда Ленінскага раёна Магілёва Н. Панасенка прыняла рашэнне задаволіць скаргу журналіста інфармацыйнага агенцтва БелаПАН **Уладзіміра Лапцэвіча** і адмяніць прынятую старэйшым следчым Магілёўскага межрайаддзела Следчага камітэта маёрам юстыцыі І. Другаковым пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах да ўчастковага інспектара Ленінскага РАУС Сяргея Калеснікава і супрацоўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Магілёва Канстанціна Кісцянёва, бо яна з'яўляецца незаконнай. Суд накіраваў матэрыялы справы начальніку Магілёўскага міжраённага аддзела Следчага камітэта для правядзення дадатковай праверкі. У пастанове суда адзначалася, што атрыманыя падчас праверкі доказы не былі правераныя і ацэненыя ў адпаведнасці з патрабаваннямі арт. 104, 105 КПК Рэспублікі Беларусь, і ў пастанове маёра Другакова дзеянням Калеснікава і Кісцянёва не дадзеная ацэнка наконт адпаведнасці гэтых дзеянняў патрабаванням беларускага заканадаўства.

27 **лютага** суддзя суда Ленінскага раёна Магілёва Вікторыя Палякова вынесла рашэнне адмяніць чарговую пастанову старэйшага следчага Магілёўскага міжраённага аддзела Следчага камітэта падпалкоўніка юстыцыі Аляксандра Лескаўца аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Магілёва Кісцянёва і ўчастковага інспектара Ленінскага РАУС Калеснікава.

*Нагадаем, што 29 красавіка 2017 г. супрацоўнік адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва Канстанцін Кісцянёў і ўчастковы інспектар Сяргей Калеснікаў не пусцілі ў залу паседжанняў, дзе павінен быў адбыцца сход сябраў гаражнага кааператыва "Спадарожнік-2008", Уладзіміра Лапцэвіча. Удзельнікі сходу запрасілі карэспандэнта для асвятлення мерапрыемства, аднак Кісцянёў адмовіўся пусціць яго ў залу, а потым адмовіўся выдаць кнігу заўваг і прапановаў; Калеснікаў не дазволіў журналісту знаходзіцца ў памяшканні і прымусова вывеў яго за руку. На працягу некалькіх месяцаў Лапцэвіч дабіваўся прыцягнення да адказнасці асобаў, якія дапусцілі супрацьпраўныя дзеянні ў адносінах да*

*журналіста. Супрацоўнікі міліцыі неаднаразова "адфутбольвалі" скаргі Лапцэвіча, аднак кожны раз журналіст абскарджваў міліцэйскія пастановы ў судзе і дабіваўся іх адмены.*

9 **лютага** суд Савецкага раёна г. Мінска пастанавіў, разгледзеўшы пазоў С. Ц. Машковіча, прызнаць несапраўднымі і ганячымі гонар і годнасць звесткі, размешчаныя журналістам **Станіславам Івашкевічам** на сайце **тэлеканала "Белсат"** пад назвай "Сямейны падрад: як энергетыкі распільваюць плацяжы за камуналку. Расследванне "Белсата", і абавязаць Івашкевіча і тэлеканал "Белсат" размясціць абвярджэнне, а таксама кампенсаваць маральную шкоду ў памеры 400 рублёў.

14 **лютага** сябра ГА "БАЖ" **Павел Левінаў** атрымаў адказ на сваю скаргу, накіраваную ў суд Цэнтральнага раёна Мінска. Ён заяўляў, што з'яўляецца сталым чытачом **сайта "Хартыя'97"**, які быў заблакаваны ў 2018 г. па рашэнні Міністэрства інфармацыі, і разлічвае на абарону сваіх інтарэсаў, бо "*артыкул 60 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнай асобе абарону ягоных правоў кампетэнтным і незалежным судом*". У скарзе адзначалася, што блакіроўка інфармацыйнага рэсурсу парушае ягонае права на атрыманне інфармацыі і з'яўляецца недапушчальным абмежаваннем свабоды думкі і яе выказвання, супярэчыць палажэнням Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Левінаў прасіў суд прызнаць, што рашэнне Міністэрства інфармацыі парушае ягоныя правы, і адмяніць гэтае рашэнне.

Суд Цэнтральнага раёна Мінска адмовіў у разглядзе скаргі з прычыны "не падведамаснасці гэтай справы суду".

29 **сакавіка** Мінскі гарадскі суд адмовіў Паўлу Левінаву ў задавальненні яго скаргі на рашэнне суда Цэнтральнага раёна не разглядаць скаргу на дзеянні Міністэрства інфармацыі.

16 **мая** Эканамічны суд Мінска адмовіў ў разглядзе заявы Паўла Левінава наконт прызнання несапраўдным нарматыўнага прававога акта Міністэрства інфармацыі аб абмежаванні доступа да сайта "Хартыя'97".

26 **лютага** суддзя Гомельскага раённага суда Вольга Фядосава адмовіла журналісту-фрылансеру **Кастусю Жукоўскаму** ў спагнанні маральнай шкоды з ТАА "Добрая хрюшка", раённай ветстанцыі і міліцыі за атручванне хімікатамі. Праз суд Жукоўскі наважваўся дамагчыся кампенсацыі ў памеры 3 000 рублёў, у тым ліку з "Добрай хрюшкі" – 2 400 рублёў. Інцыдэнт адбыўся ў 2017 г. падчас спробы журналіста разам з яго калегам Андрэем Толчыным высветліць прычыну падзяжу свіней у жывёлагадоўчым комлексе прадпрыемства ў вёсцы Зялёныя Лукі. Як высветлілася ў судзе, Жукоўскага апрыскаў хімікатамі начальнік раённай ветстанцыі галоўны ветэрынарны ўрач Гомельскага раёна Леанід Казлоў (ён быў выкліканы ў суд у якасці трэцяй асобы і стаў асноўным адказчыкам па справе замест ТАА "Добрая хрюшка"). Жукоўскі быў абпырсканы з галавы да ног, Толчыну вадкасць патрапіла толькі на штаны ды абутак. Яны выклікалі міліцыю і хуткую дапамогу. Журналіст быў дастаўлены ў шпіталь для правядзення тэстаў, у выніку якіх стала вядома, што ён быў атручаны невядомым хімічным рэчывам. Казлоў у судзе патлумачыў, што ў звязку з эпідэміялагічнай сітуацыяй вакол свінакомплекса "Добрая хрюшка" была наладжаная санітарна-ахоўная зона, праводзіліся каранцінныя мерапрыемствы. Паколькі двое невядомых людзей (гэта значыць, журналістаў) не бралі ўдзелу ў "ліквідацыі ачагу захворвання", на заўвагі супрацоўнікаў міліцыі не рэагавалі, то ён і абпырскаў іх абутак прэпаратам "Мікрацыд".

25 **чэрвеня** Эканамічны суд Брэсцкай вобласці прыняў рашэнне па справе аб абароне дзелавой рэпутацыі ТАА "АйПауэр". Гэтая кампанія датычная да будаўніцтва акумулятарнага завода пад Брэстам, супраць якога пратэставалі мясцовыя жыхары з-за яго шкоднасці для экалагічнай сітуацыі. Яна выставіла прэтэнзіі мясцовым блогерам – **Аляксандру Кабанаву** і **Сяргею Пятрухіну**. Паводле рашэння суда, блогеры павінныя былі заплаціць па 245 рублёў кожны, а таксама выдаліць са свайго **Youtube-канала** "Народны рэпарцёр" ролік пад назвай **"Свінец – Брэсту пісец?"**, запісаць прабачэнні і выкласці іх на гэтым канале. Пазоў у суд на блогераў быў пададзены фірмай "АйПауэр" за самы

першы ролік пра будаўніцтва акумулятарнага завода. У заяве вялося, што ў відэасюжэце выкладзеныя звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці і ганяць дзелавую рэпутацыю ТАА "АйПауэр". На думку пазоўніка, выказванні блогераў у роліку ўтрымліваюць неабгрунтаваныя абвінавачванні кампаніі ў парушэнні ёю заканадаўства ў галіне экалогіі, забруджвання навакольнага асяроддзя, карупцыі і інш.

25 **ліпеня** Эканамічны суд г. Мінска вынес рашэнне часткова задаволіць пазоў ААТ «Белкотлаачыстка» супраць журналіста **Станіслава Івашкевіча.** Ён быў прызнаны абавязаным абвергнуць звесткі, што ганяць дзелавую рэпутацыю гэтага прадпрыемства, шляхам накіравання польскаму спадарожнікаваму каналу "Белсат" афіцыйнага пісьмовага абвяржэння. У сваім журналісцкім расследванні пра дзяржаўны канцэрн «Белэнерга», апублікаваным на сайце тэлеканала "Белсат" пад назвай "Сямейны падрад: як энергетыкі распільваюць плацяжы за камуналку. Расследванне "Белсату", Станіслаў Івашкевіч заяўляў пра сур'ёзныя карупцыйныя парушэнні ў супрацоўніцтве канцэрна з ААТ «Белкотлаачыстка». Ён сцвярджаў, што прадпрыемства неабгрунтавана завышае кошты на свае паслугі, але нягледзячы на гэта, фактычна стала манапалістам па ачыстцы рэзервуараў для мазуту ў сістэме «Белэнерга». У адказ на гэта ААТ «Белкотлаачыстка» звярнулася з пазовам у Эканамічны суд, у якім прасіла спагнаць з журналіста 5 000 беларускіх рублёў кампенсацыі.

10 **верасня суд** Савецкага раёна Мінска не задаволіў пазоў бізнэсоўца **Аркадзя Ізраілевіча** да **газеты «Новы час»** і журналіста **Дзяніса** Івашына аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі. З Ізраілевіча суд вырашыў спагнаць 600 рублёў на карысьць газэты і журналіста. Ізраілевіч палічыў, што аўтар «Новага часу» недакладна разумее сэнс словаў «афіляванасць» і «бенефіцыяр», якія журналіст ужываў, даказваючы што ён звязаны з пабудовай і дзейнасцю рэстарацыі «Поедем поедим». Паводле меркавання Ізраілевіча, ён не мае адносін да фірмаў-уласнікаў рэстарацыі. Суд вырашыў, што адна частка выказванняў пра Ізраілевіча не наносяць шкоды яго рэпутацыі і не абражаюць яго, а другая частка увогуле яго не тычацца. Справу разглядала суддзя **Вераніка Абрамовіч**.

18 **верасня** суд Мазырскага раёна не задаволіў скаргу блогера з Акцябрскага **Андрэя Павука** аб парушэнні ягонага права на атрыманне інфармацыі супрацоўнікамі Акцябрскага раённага выканаўчага камітэта і райсавета. У чэрвені Павук звярнуўся да кіраўніцтва райвыканкама і раённага Савета дэпутатаў з прапановай дазволіць яму прысутнічаць на адкрытых нарадах у райвыканкаме і на сесіях раённага Савета дэпутатаў. Чыноўнікі адказалі, што такога права Павук не мае і адмовілі яму ў просьбе. Блогер палічыў што гэтай адмовай чыноўнікі парушылі ягонае канстытуцыйнае права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі. Скаргі ў вышэйстаячую інстанцыю – Гомельскі абласны выканаўчы камітэт – таксама засталіся без задавальнення. Першапачаткова справа разглядалася ў судзе Акцябрскага раёна, але 15 жніўня суддзя Уладзімір Васілеўскі заявіў самаадвод у справе па пазову блогера. Напярэдадні, калі справа яшчэ толькі разглядалася, памочнік раённага пракурора Вадзім Шыбут забыўся ў судзе аркушы з надрукаваным тэкстам, падобным на рашэнне суда. Гэтыя аркушы ўдзельнікі пасяджэння сфатаграфавалі і выклалі ў інтэрнэце. Андрэй Павук расцаніў гэта як загадзя падрыхтаванае рашэнне. Пасля гэтага справа была перададзеная на разгляд у суд Мазырскага раёна.

29 **кастрычніка** Суд Чыгуначнага раёна Гомеля часткова задаволіў пазоў дырэктаркі школы да відэаблогера **Арцёма Шапарава**. Суддзя Вольга Імпалітава палічыла, што, "апрануўшы" дырэктарку школы № 3 Ніну Старажэнку ў чорны нацыскі мундзір афіцэра СС у застаўцы відэароліка, Шапараў прынізіў яе гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Для кампенсацыі маральнай шкоды блогер абавязаны сплаціць Ніне Старажэнцы 300 рублёў з патрабаваных у пазове 5 тысяч рублёў. Яшчэ 347 рублёў з выдаткаванай тысячы блогер абавязаны кампенсаваць дырэктарцы школы за паслугі адваката і судовыя выдаткі.

*У маі 2018 года на сваім канале "Общество Гомель" відэаблогер Шапараў размясціў ролік "Дзеці ў закладніках, а іх маці-ўдава – у рабстве. Жудасныя рэаліі Беларусі. Дэкрэт № 18". У ім была расказаная гісторыя шматдзетнай маці Антаніны Шайнюк, якая адна гадуе чацвёра дзяцей. Яе сям'ю Ніна Старажэнка пагражала паставіць на ўлік як сацыяльна небяспечную. Дырэктарцы школы не спадабалася, што шматдзетная маці несвоечасова сплочвала камунальныя плацяжы, яе дачок-школьніц часцяком даглядала бабуля, а ў кватэры быў беспарадак: абадраныя шпалеры ды адчуваліся непрыемныя пахі ад хворай аўчаркі, якую кіраўніца школы настойліва раіла ўсыпіць. Шматдзетнай сям'і аказала фінансавую дапамогу Нобелеўская лаўрэатка ў галіне літаратуры Святлана Алексіевіч, а гамельчукі сабралі грошы на аперацыю для хворай аўчаркі. Сям'я расплацілася з запазычанасцямі і вылечыла сабаку.*

9 **лістапада** суд Кастрычніцкага раёна Гродна прыняў рашэнне часткова задаволіць пазоў Івана і Веры Грыгор'евых супраць рэдактара сайта newgrodno.by **Ігара Бублікава.** На сайце быў размешчаны артыкул "Сирени нет, а уголовное дело есть. Неожиданный поворот в истории про срубленную сирень". Пазоўнік спасылаўся на тое, што ў гэтым артыкуле ганіліся яго гонар і годнасць, а таксама парушалася права на недатыкальнасць асабістага жыцця. Згодна з рашэннем суда, Ігар Бублікаў павінен выплаціць абодвум пазоўнікам па 200 рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды.

28 **снежня** было агучана рашэнне суда Савецкага раёна Мінска па іску аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі бізнесоўца Леаніда Зайдэса да газеты **«Новы Час»** і журналіста **Дзяніса Івашына.** Ён быў задаволены часткова: «Новы Час» абавязаны сплаціць Зайдэсу 700 рублёў маральнай кампенсацыі і судовыя выдаткі. Акрамя таго, "Новы Час" павінен апублікаваць абвяржэнне свайго матэрыялу. Журналіст Дзяніс Івашын не мусіць плаціць кампенсацыю Зайдэсу, які палічыў прычынай сваіх маральных пакутаў публікацыі з цыкла журналісцкіх расследванняў Івашына. Журналіст раскрыў схему пабудовы, а таксама выявіў большасць асобаў і юрыдычных структур, якія, паводле ягонага меркавання, датычныя да будаўніцтва рэстараннага комплекса каля гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 1930-40 гадоў ва ўрочышчы Курапаты».

## Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед. Фізічныя замахі

5 **студзеня** Гомельскі абласны суд адхіліў скаргу мясцовага журналіста-фрылансера **Андрэя Толчына** на пакаранне штрафам у памеры 575 рублёў, якое наклаў на яго ў лістападзе 2017 г. суддзя суда Цэнтральнага раёна Яўген Шаршнёў. Падставай для адмініcтацыйнага штрафу стаў сюжэт на тэлеканале «Белсат» «40 градусаў, пагрозы і вада з прыбіральні», у якім распавядалася пра дрэнныя ўмовы працы на прадпрыемстве "Каштан".

10 **студзеня** Пастаўскі раённы суд Віцебскай вобласці прызнаў журналіста **Змітра Лупача** вінаватым у адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ) і наклаў на яго штраф у памеры 612,5 рублёў. Адміністрацыйны пратакол на Лупача быў складзены за здымкі відэа для "Белсата" пра дэфіцыт угнаенняў у Пастаўскім раёне.

11 **студзеня** суддзя суда Фрунзенскага раёна Мінска Ганна Буйноўская пакарала незалежную журналістку **Любоў Буянаву (Лунёву)** штрафам у памеры 980 рублёў за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ – падрыхтоўку матэрыяла для тэлеканала "Белсат" без акрэдытацыі. Справа была ініцыянаваная намеснікам начальніка ўпраўлення архітэктуры і будаўніцтва адміністрацыі

Фрунзенскага раёна **Паўлам Тумасам**, які звярнуўся ў міліцыю з заявай пра тое, што 20 лістапада 2017 г. Лунёва прысутнічала на грамадскіх слуханнях у выканкаме і праводзіла там інтэрв'ю.

18 **студзеня** суддзя суда Лідскага раёна Гродзенскай вобласці С. Піпко пакараў карэспандэнтку «Белсата» **Вольгу Чайчыц** буйным штрафам у памеры 705 рублёў. У чарговы раз Чайчыц была абвінавачаная па арт. 22.9 КаАП (незаконная вытворчасці і/або распаўсюд прадукцыі СМІ). Нагодай для гэтага стаў сюжэт аб праблемах прадпрымальнікаў, што працуюць на мясцовым рынку ў Лідзе.

18 **студзеня** Светлагорскі раённы суд прысудзіў гомельскім журналістам-фрылансерам **Кастусю Жукоўскаму** і **Андрэю Толчыну** вялікія штрафы за інтэрв'юіраванне для "Белсата" жыхароў вёскі Якімава Слабада. Жукоўскі быў аштрафаваны на 1225 рублёў (каля 500 еўра), Толчын – на 1102.5 рублёў (каля 450 еўра) суддзёй Русланам Царуком. Адміністрацыйныя пратаколы ў адносінах да журналістаў былі складзеныя капітанам міліцыі Сяргеем Шліхтам. Ён абвінаваціў іх у парушэньні арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ).

31 **студзеня** 980 рублёў (400 еўра) штрафу атрымаў журналіст з Глыбокага **Зміцер Лупач** за супрацу з тэлеканалам "Белсат". Лупача пакаралі за падрыхтоўку рэпартажу пра жыццё аднаго з аграгарадкоў раёна. Справу журналіста па частцы 2 артыкула 22.9 КаАП (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі) разглядаў суддзя Докшыцкага суда Вячаслаў Елісеенка.

8 лютага Алесь Сіліч, які супрацоўнічаў з "Белсатам", быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў Мінску за «незаконнае выкарыстанне таварнага знака "Белсат"». Суддзя Анастасія Папко прысудзіла яму 875,5 рублёў (356 еўра) штрафу і пастанавіла канфіскаваць камеру, мікрафон, сістэмны блок і два ноўтбукі.

*Судовая справа з-за таварнага знака «Белсат» доўжылася амаль пяць гадоў, і, верагодна, была ініцыяваная ўладамі. На думку ўладальніка кампаніі «BELSATplus", тэлеканал "Белсат" шкодзіць інтарэсам яго кампаніі, і ён паспрабаваў забараніць каналу выкарыстанне гандлёвай маркі «Белсат». Вярхоўны суд адмовіў у задавальненні гэтых патрабаванняў. Але пазней, у 2015 г., Вярхоўны суд Беларусі перагледзеў сваё рашэнне і заклікаў польскія ўлады забараніць тэлеканалу "Белсат" выкарыстанне яго таварнага знака, бо польскі тэлеканал не падлягае беларускай юрысдыкцыі.*

9 **лютага** журналістка-фрылансер **Ларыса Шчыракова** была пакараная судом Гомельскага раёна адміністрацыйнымі штрафамі за незаконны выраб прадукцыі СМІ (артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і няяўку ў суд (артыкул 24.6 КаАП). Памер штрафаў склаў 661,5 рубля (273 еўра). Журналістка ў снежні і студзені 2017 г. вяла прамыя трансляцыі на YouTube са стыхійных сходаў жыхароў вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна, якія пратэставалі супраць небяспечнага заводу беленай цэлюлозы, пабудаванага кітайскімі інвестарамі побач з вёскай. Гэтае відэа было выкарыстана тэлеканалам "Белсат".

18 **лютага** падчас выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў быў затрыманы журналіст **Андрэй Козел.** Ён у якасці даверанай асобы кандыдата ў дэпутаты вёў прамую трансляцыю з выбарчага ўчастка ў Мінску. Міліцыя заявіла, што ён "праігнараваў іх патрабаванні, аказаў супраціў супрацоўніку міліцыі, хапаў міліцыянта за форму". Журналіст правёў ноч у ізалятары ў чаканні суда па абвінавачванні ў непадпарадкаванні міліцыі. Козел, які атрымаў пашкоджанне ілба, расказаў, што міліцыянты збілі яго, стукалі галавой аб шкляныя дзверы, пакуль шкло не разбілася, а затым адмовілі яму ў медычнай дапамозе ў той час, як ён быў у іх распараджэнні.

19 **лютага** суд Цэнтральнага раёна горада Мінска пастанавіў адправіць адміністрацыйную справу ў міліцыю на дапрацоўку, і Козел быў вызвалены.

7 **сакавіка** Андрэй Козел быў аштрафаваны на 735 рублёў (305 еўра) за непадпарадкаванне міліцыі пасля таго, як пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні быў дапрацаваны.

20 **лютага** суддзя суда Лідскага раёна Гродзенскай вобласці Ўладзімір Федаровіч пакараў фрылансераў **Вольгу Чайчыц і Андрэя Козела** штрафам у памеры 857,5 беларускіх рублёў (356 еўра) кожнага. У адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ) журналісты былі пакараныя за відэа аб судзе над імі, якое выйшла ў эфіры "Белсата" 18 студзеня 2018 г. Чайчыц расказала, што яна нават не ўдзельнічала ў вытворчасці гэтага відэа.

22 **лютага** суддзя суда Кастрычніцкага раёна Віцебска Ілля Белавус аштрафаваў **Уладзіміра Лунёва і Віталя Скрыля** на 588 беларускіх рублёў (244 еўра) кожнага за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат". Журналістаў прызналі вінаватымі "ў вырабе фрагмента" матэрыяла СМІ ў адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП (вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ). Менавіта так было запісана ў пратаколе, складзеным супрацоўніцай Аршанскага РАУС Ліліяй Трушко. Журналісты апытвалі жыхароў Оршы, і гэтыя інтэрв'ю ўвайшлі ў рэпартаж "За што ў Воршы так не любяць Аляксандра Лукашэнку", паказаны на "Белсаце".

6 **красавіка** Віталю Скрылю і Уладзіміру Лунёву не ўдалося аспрэчыць гэтыя штрафы. Скаргі разглядала суддзя Віцебскага абласнога суда Святлана Іванова.

28 **лютага** суд Калінкавіцкага раёна аштрафаваў гомельскага незалежнага журналіста **Андрэя Толчына** на 300 беларускіх рублёў (124 еўра) за супрацоўніцтва з "Белсатам". Ён быў пакараны ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Разам са сваім калегам **Кастусём Жукоўскім** ён здымаў відэа ў вёсцы Каплічы Калінкавіцкага раёна ў канцы студзеня 2017 г. Справа Жукоўскага была спынена, так як жыхары Капліч аў, выкліканыя для дачы паказанняў у судзе, не здолелі апазнаць журналіста.

28 **лютага** суд Ленінскага раёна Брэста прызнаў блогераў **Аляксандра Кабанава** і **Сяргея Пятрухіна** вінаватымі ў парушэнні парадку арганізацыі масавага мерапрыемства неаднаразова на працягу года (арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і аштрафаваў іх на 1225 рублёў (каля 500 еўра) кожнага. Яны былі прыцягнутыя да адказнасці за заклікі прыняць удзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту супраць будаўніцтва акумулятарнага завода, пагражаючага экалагічнай сітуацыі, якая адбывалася ў Брэсце 25 лютага.

Кабанаў і Пятрухін былі затрыманыя ўвечары 23 **лютага**. Яны правялі выходныя ў ізалятары часовага ўтрымання.

2 **сакавіка** суддзя суда Светлагорскага раёна Руслан Царук спыніў адміністрацыйныя справы гомельскіх журналістаў-фрылансераў **Кастуся Жукоўскага** і **Андрэя Толчына.** Міліцыя хацела прыцягнуць журналістаў да адказнасці паводле арт. 22.9 КаАП за асвятленне на "Белсаце" экалагічнай сітуацыі ў вёсцы Якімава Слабада. Відэасюжэт пад назвай ""Людзі тут вымруць, як мухі". Удзельнікамі стыхійных сходаў пад Светлагорскам занялася міліцыя" быў паказаны на спадарожнікавым тэлеканале "Белсат" 30 снежня 2017 г. Адміністрацыйны пераслед суд спыніў, паколькі скончыўся двухмесячны тэрмін, цягам якога можна прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці.

3 **сакавіка Алесь Ляўчук**, які супрацоўнічае з тэлеканалам "Белсат", быў аштрафаваны на 612,5 беларускіх рублёў (254 еўра) у Брэсце. Падставай для судовага разбіральніцтва стаў аповед у эфіры "Белсата" аб карупцыйнай схеме, якая выкарыстоўвалася мясцовымі чыноўнікамі падчас рамонту вуліцы Шаўчэнкі ў Брэсце.

Адміністрацыйны пратакол у адносінах да Ляўчука ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі) быў складзены 27 лютага.

5 **сакавіка** суд Дзяржынскага раёна прызнаў **Вольгу Чайчыц** і **Андрэя Козела** вінаватымі ў парушэнні арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і пакараў іх штрафам памеры 857,5 беларускіх рублёў (каля 350 еўра) кожнага. Чайчыц і Козел паўсталі перад судом за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат", у прыватнасці, за рэпартаж з Фаніпаля, дзе было паказана, як групе мясцовых жыхароў амаль шэсць месяцаў прыйшлося чакаць засялення ў свае новыя кватэры.

6 **сакавіка** суддзя Шаркаўшчынскага раённага суда пакарала штрафам у памеры 563.5 беларускіх рублёў (каля 230 еўра) незалежнага журналіста **Змітра Лупача**. Журналісту інкрымінавалі працу без акрэдытацыі і прыцягнулі да адказнасці па арт. 22.9 КаАП (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ). Сюжэт, які выйшаў на тэлеканале "Белсат" 7 студзеня, тычыўся праблемы малых заробкаў у Шаркаўшчыне. 25 красавіка суддзя Віцебскага абласнога суда Святлана Іванова адмяніла пастанову Шаркаўшчынскага суда, паколькі на момант разгляду судовай справы сыйшоў тэрмін прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

12 **сакавіка** блогеры **Аляксандр** Кабанаў і **Сяргей Пятрухін** былі аштрафаваныя на 980 рублёў (406 еўра) кожны ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Блогеры здымалі каля прахадной прадпрыемства "EXIDE" у Пінску. Кабанаў размясціў відэа ў свам акаўнце ў Facebook, а Пятрухін правёў прамую трансляцыю на сваім канале ў YouTube. Адміністрацыйны пратакол супраць іх быў складзены на падставе скаргі юрысконсульта "EXIDE" Аляксандра Юнкевіча. Суд Пінскага раёна пакараў іх за «незаконную вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі», хоць дазены артыкул прадугледжвае адказнасць за працу для канкрэтнага сродка масавай інфармацыі і сацыяльныя сеткі ніколі не разглядаліся судамі ў якасці сродкаў масавай інфармацыі.

11 **красавіка** суддзя Брэсцкага абласнога суда **Руслана Сянько** адмяніла пастанову суда першай інстанцыі.

14 **сакавіка** Гомельскі раённы суд аштрафаваў журналістаў-фрылансераў **Кастуся Жукоўскага і Андрэя Толчына** на 612,5 беларускіх рублёў (каля 255 еўра) кожнага за незаконную вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі. У сярэдзіне лютага "Белсат" паказаў сюжэт аб масавым забоі свіней на ферме "Сож" у Гомельскім раёне, выкліканым, як мяркуецца, свіной чумой. Пасля чаго капітан міліцыі Якаў Сухайкоў склаў на журналістаў адміністрацыйны пратакол у адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

16 **сакавіка** ў Віцебску былі аштрафаваныя на падставе арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрыцыйных правапарушэннях журналісты-фрылансеры **Алена Шабуня** і **Вячаслаў Лазараў**. За сюжэт пра засмечанае возера і адсутнасць пітной вады ў вёсцы Тапорына, паказаны тэлеканалам "Белсат", Шабуня атрымала 490 рублёў штрафу, а Лазараў – 539 рублёў.

25 **красавіка** суддзя Віцебскага абласнога суда Святлана Іванова не задаволіла скаргу журналістаў на пастанову ад 16 сакавіка.

23 **сакавіка** суддзя суда Фрунзенскага раёна Мінска Андрэй Малечка пакараў незалежную журналістку **Вольгу Чайчыц** штрафам у памеры 735 рублёў за тое, што журналістка нібыта незаконна вырабіла сюжэт пра ўшчыльненне дамоў на вуліцы Якубоўскага, які выйшаў у эфіры тэлеканала "Белсат".

23 **сакавіка** супрацоўнікі міліцыі затрымалі брэсцкага блогера **Сяргея Пятрухіна**, пасля чаго больш за двое сутак ён правёў у ізалятары часовага ўтрымання Ленінскага РАУС Брэста. Як распавёў сам

Пятрухін, затрымлівалі яго людзі ў цывільным, а потым да іх далучыліся супрацоўнікі міліцыі ў форме. Ён прасіў іх прадставіцца, але ніхто сябе не назваў. Яму сталі тлумачыць, што нібыта ён быў п'яны, размахваў рукамі, пасля чаго сілай запіхнулі ў міліцэйскую машыну.

29 **сакавіка** суд Ленінскага раёна Брэста аштрафаваў блогера на 1102,5 рубля паводле артыкула 23.4 КаАП (Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў).

24 **сакавіка** ў Бярозе затрымалі відэаблогера **Аляксандра Кабанава**. Да пачатку судовага працэсу (які быў прызначаны на другую палову дня 26 сакавіка), ён знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрымання. У адносінах да яго быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту праціўнікаў будаўніцтва акумулятарнага завода 18 сакавіка. Такія акцыі адбываліся па нядзелях, і бліжэйшая планавалася 25 сакавіка. Разам з брэсцкім блогерам Сяргеем Пятрухіным Кабанаў рэгулярна асвятляў на Youtube-**канале "Народны рэпарцёр"** праблемы, звязаныя з будаўніцтвам акумулятарнага завода каля Брэста. Распачатая будоўля выклікала абурэнне ў мясцовых жыхароў, якія асцерагаюцца, што завод нанясе шкоду навакольнаму асяроддзю і здароўю людзей.

29 **сакавіка** суд Бярозаўскага раёна прызнаў Кабанава вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння і аштрафаваў яго на 980 рублёў.

26 красавіка Брэсцкі абласны суд адхіліў скаргу Аляксанда Кабанава і пакінуў рашэнне суда першай інстанцыі без зменаў.

25 **сакавіка** дзесяць журналістаў былі затрыманыя міліцыяй у Дзень Волі – неафіцыйнага ў Беларусі свята, якое адзначаецца ў гонар памяці пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г. Святочны канцэрт у Мінску быў узгоднены з уладамі, але шэсце, якое павінна было пачацца з плошчы Якуба Коласа, не было дазволена. Шэраг незалежных журналістаў, якія асвятлялі падзеі, былі затрыманыя.

Каля 10:30 раніцы супрацоўнікі ДАІ спынілі аўтамабіль супрацоўнікаў "Белсата" **Вольгі Чайчыц** і **Андрэя Козела** (у аднаго з міліцыянтаў нумар іх аўтамабіля быў запісаны на руцэ). Праверыўшы ў журналістаў дакументы, міліцыянты адпусцілі іх, але толькі на кароткі прамежак часу. Крыху пазней сямейная пара была зноў затрыманая. Аператар Андрэй Козел быў дастаўлены ў псіхіятрычную бальніцу ў вёсцы Сенніца недалёка ад Мінска. Там было праверана ўтрыманне алкаголю ў яго крыві, затым журналіста адпусцілі.

Супрацоўнікі "Белсата" **Любоў Буянава (Лунёва), Станіслаў Івашкевіч, Ігар Ілляш,** Кацярына **Андрэева (Бахвалава) і Сяргей Кавалёў** былі затрыманыя апоўдні побач з плошчай Якуба Коласа ў Мінску, дзе мелася пачацца несанкцыянаванае шэсце. Да пяці гадзін вечара ўсе журналісты "Белсата" былі вызваленыя.

У Віцебску журналіст **Уладзімір Лунёў** быў затрыманы ДАІ з прычыны праверкі яго аўтамабіля. Ён быў дастаўлены ў Першамайскі РУУС. Там Лунёў даў пісьмовае тлумачэнне і быў выпушчаны праз тры гадзіны.

У Лепелі Віцебскай вобласці міліцыя затрымала незалежную журналістку **Таццяну Смоткіну.** Яе кіроўца быў абвінавачаны ў нібыта перавышэнні хуткасці. Міліцыянты апыталі яго, але не склалі пратакол за парушэнне правілаў дарожнага руху.

**Галіна Абакунчык**, карэспандэнтка "Радыё Свабода", была затрыманая пасля дазволенага канцэрту ў Мінску а пятай гадзіне вечара. Яна расказала, што ўсе асобы, затрыманыя разам з ёй, мелі пры сабе невялікія бел-чырвона-белыя сцягі, якія з'яўляюцца неафіцыйнымі нацыянальнымі сімваламі.

Абакунчык таксама была затрыманая з невялікім сцяжком. У аддзяленні міліцыі Цэнтральнага раёна міліцыянты забралі яе рэчы. Журналістцы не дазвалялі рабіць тэлефонныя званкі і наведваць туалет. Абакунчык была выпушчаная праз тры з паловай гадзіны.

2 **красавіка** суд Цэнтральнага раёна Мінска прысудзіў **Ганне Аземшы і Аляксандру Баразенку** максімальныя штрафы ў адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП – 1225 беларускіх рублёў (510 еўра) кожнаму. Журналісты атрымалі штрафы за стрым, які яны вялі 18 лютага ад будынку Цэнтральнага РУУС, куды прывезлі іх калегу Андрэя Козела пасля таго, як яго збілі міліцыянты.

2 **красавіка** суд Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваў журналістку **Марыю Арцыбашаву** і аператара **Сяргея Краўчука на** 735 **рублёў кожнага** за нібыта незаконны выраб прадукцыі СМІ – працу без акрэдытацыі на карысць тэлеканала «Белсат». 8 мая Мінскі гарадскі суд адмяніў гэтую пастанову з-за працэдурных парушэнняў.

10 **красавіка** ў судзе Ленінскага раёна Мінска адбыўся другі за месяц суд над фрылансерамі **Аляксандрам Баразенкам і Ганнай Аземшай**. Яны былі аштрафаваныя на 1225 рублёў (каля 500 еўра) кожны за незаконную вытворчасць і распаўсюд прадукцыі СМІ. Як і раней, падставаю для пераследу было асвятленне затрымання і суда над іх калегам Андрэем Козелам.

10 **красавіка** журналісты-фрылансеры **Андрэй Козел і Вольга Чайчыц** былі аштрафаваныя на 980 рублёў (каля 400 еўра) кожны ў Мінску. Іх судзілі ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ). Спачатку ім паведамілі, што іх працэс адкладзены, аднак пазней высветлілася, што справа была разгледжаная. Яна тычылася знятага імі сюжэта пра датэрміновае галасаванне ў Бараўлянах Мінскага раёна падчас мясцовых выбараў, які выйшаў на тэлеканале "Белсат".

14 **красавіка** ў Мінску былі аштрафаваныя ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях журналісты **Сяргей Краўчук і Любоў Буянава (Лунёва)**. Іх штрафы за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі склалі 705 рублёў з кожнага.

20 **красавіка** карэспандэнтку «Белсата» **Вольгу Чайчыц** і аператара **Андрэя Козела** пакаралі штрафамі ў памеры 980 беларускіх рублёў за працу без акрэдытацыі ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях ў судзе Карэліцкага раёна. Падставаю для складання пратакола стала праца журналістаў над сюжэтам пра грамадзяніна Туркменістана, які скардзіўся на "рабскую працу" ў беларускім калгасе.

20 **красавіка** Глыбоцкі раённы суд прысудзіў 857,5 рублёў (345 еўра) штрафу незалежнаму журналісту **Змітру Лупачу** за супрацоўніцтва з "Белсатам". Два пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні былі складзеныя капітанам міліцыі Сяргеем Цырбанам з-за сюжэтаў на тэлеканале "Белсат" пад назвай "Ваўкі тэрарызуюць Віцебшчыну. Страх апанаваў людзей" і "150 – добры заробак. Маленькім гарадам – канец?".

23 **мая** суддзя Віцебскага абласнога суда Святлана Іванова, разгледзеўшы скаргу журналіста, пакінула пастанову ад 20 красавіка ў сіле.

27 **красавіка** суддзя Светлагорскага раёна Руслан Царук адправіў на дапрацоўку пратакол паводле артыкула 22.9 КаАП, які склаў старшы лейтэнант міліцыі Алег Каўцэвіч у адносінах да гомельскай журналісткі-фрылансера **Ларысы Шчыраковай,** з прычыны недарэчных абвінавачанняў у адміністрацыйным пратаколе. У ім паведамлялася, што 9 сакавіка а 8-й гадзіне раніцы Шчыракова незаконна інтэрв'юіравала жыхароў вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна і гэтае відэаінтэрв'ю яна размясціла ў "Навінах" на польскім спадарожнікавым тэлеканале "Белсат". Між тым, такой праграмы на тэлеканале не існуе. Аўтар пратакола, выкліканы ў суд, не змог уцямна патлумачыць абставіны прэтэнзіяў да журналісткі. 21 **чэрвеня** Шчыракова атрымала паведамленне за подпісам

начальніка Светлагорскага райаддзела міліцыі Аляксандра Зязёткі пра спыненне адміністрацыйнай справы ў сувязі са сканчэнне тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

2 **мая** суд Цэнтральнага раёна Гомеля аштрафаваў журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** на 735 рублёў (каля 300 еўра). Ён быў прызнаны вінаватым ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ паводле артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. У пратаколе аб адміністрацыйным правапарушэнні ўказвалася, што Жукоўскі ў перыяд з 5 па 7 сакавіка праводзіў інтэрв'юіраванне трох жыхароў Гомеля, а пасля вырабіў відэасюжэт і размясціў яго ў праграме "Аб'ектыў" на польскім тэлеканале "Белсат".

7 **мая** журналісты, што супрацоўнічаюць з "Белсатам", – **Любоў Буянава (Лунёва), Сяргей Краўчук, Кацярына Андрэева (Бахвалава), Ірына Арахоўская, Марыя Арцыбашава і Аляксандр Баразенка** – былі аштрафаваныя ў Мінску на падставе арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (за працу без акрэдытацыі). **Сяргей Краўчук і Кацярына Андрэева (Бахвалава)** былі аштрафаваныя двойчы за дзень. Агульная сума штрафаў склала 6000 беларускіх рублёў (каля 2530 еўра). Пасля гэтай падзеі прадстаўнік АБСЕ па свабодзе медыяў Арлем Дэзірэ выказаў расчараванне і занепакоенасць у сувязі з ужываннем санкцыяў у адносінах да журналістаў, што працуюць без акрэдытацыі ў Беларусі. *«Гэтая паралізуючая практыка фактычна забараняе журналістам паведамляць пра праблемы, якія ўяўляюць грамадскі інтарэс, і аказвае негатыўны ўплыў на плюралізм і свабоду медыяў у Беларусі. Учорашнія судовыя рашэнні супраць шасці журналістаў-фрылансераў зноў падкрэсліваюць пільную неабходнасць вырашэння праблемы»,* – заявіў Арлем Дэзірэ. Ён заклікаў улады Беларусі неадкладна ўнесці змены ў закон аб СМІ і прадаставіць усім журналістам беспершкоднае права шукаць і распаўсюджваць інфармацыю.

10 **мая** Суд Маскоўскага раёна Брэста прызнаў фрылансера **Алеся Ляўчука** вінаватым паводле артыкула 22.9 КаАП і аштрафаваў яго на 612,5 беларускіх рубля (256 еўра). Падставай для пакарання з'явілася тое, што 3 студзеня 2018 г. Ляўчук "незаконна вырабіў і распаўсюдзіў прадукцыю сродкаў масавай інфармацыі". Ён, не маючы акрэдытацыі ў якасці журналіста замежнага СМІ, браў інтэрв'ю ў грамадзян на вуліцы Шаўчэнкі ў Брэсце, пасля чаго размясціў публікацыю на сайце тэлеканала "Белсат".

14 **мая** ў Гродна суд аштрафаў на 857 рублёў (359 еўра) **Паўла Мажэйку**, вядучага праграмы "Intermarium" на тэлеканале "Белсат". 25 сакавіка 2018 г., у Дзень волі, журналіст асвятляў падзеі ў Гродна. Згодна з міліцэйскім пратаколам, складзеным міліцыянтам Вадзімам Налівайкам, Мажэйка абвінавачваўся ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі СМІ ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

21 **мая** незалежная магілёўская журналістка **Аліна Скрабунова** была затрыманая двума людзьмі ў цывільным і дастаўленая ў Ленінскі РАУС Магілёва. Двое невядомых сачылі за журналісткай каля шматкватэрнага дома, дзе яна жыве. Ледзь журналістка падыйшла да дзвярэй, адзін з іх схапіў яе за руку і пацягнуў да машыны. Журналістка была дастаўленая ў аддзяленне міліцыі ў прыватным (не міліцэйскім) аўтамабілі; падчас паездкі кіроўца не прадстаўляўся. Толькі ў міліцыі ён паведаміў сваё імя і пасаду – участковы інспектар Руслан Марозаў. Ён таксама паведаміў Скрабуновай, што ў адносінах да яе была распачатая справа за "ўдзел ў незаконнай вытворчасць і распаўсюдзе прадукцыі СМІ". Другі чалавек адмовіўся прадставіцца наогул. Ён перашкаджаў журналістцы здымаць падчас затрымання, а затым проста знік. Скрабуновай удалося засняць момант яе затрымання, а таксама тое, як яе дастаўлялі ў аддзяленне.

23 **мая** журналістка накіравала скаргу на імя начальніка Ленінскага РАУС Магілёва Аляксея Шчарбакова. Яна атрымала адказ за подпісам намесніка начальніка аддзела Аляксандра Пушына, у якім паведамлялася, што яе скарга "пакінутая без разгляду па істотнасці", у сувязі з тым, што

ўтрымлівае пытанні, рашэнне якіх не адносіцца да кампетэнцыі Ленінскага РАУС Магілёва, а таксама пра законнасць дзеянняў супрацоўнікаў праваахоўных органаў падчас брутальнага затрымання.

23 **мая** журналістка "Белсата" **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** была аштрафаваная на 1225 рублёў (каля 520 еўра) за незаконную вытворчасць і распаўсюд прадукцыі СМІ — гэта значыць, за працу без акрэдытацыі. Справа разглядалася ў судзе Савецкага раёна Мінска.

28 **мая** журналістка-фрылансер з Гомеля **Ларыса Шчыракова** была аштрафаваная за працу для тэлеканала "Белсат" на суму 980 рублёў у судзе Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці на падставе арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

29 **мая** суд Ленінскага раёна Магілёва пакараў штрафамі "за незаконны выраб прадукцыі СМІ для замежнага спадарожнікавага тэлеканала "Белсат" журналістаў **Аліну Скрабунову і Яўгена Глушкова.** На падставе арт. 22.9 КаАП на Скрабунову быў накладзены штраф у памеры 1225 рублёў (каля 520 еўра). Глушкоў быў аштрафаваны на суму 735 рублёў (каля 310 еўра). Журналістам ставіўся ў віну выраб двух відэасюжэтаў для тэлеканала "Белсат" — пра высяленне жыхароў аднаго з дамоў у Магілёве з-за памылкі ўладаў і пра самагубства кіраўніка аграхолдынга "Купалаўскае" ў Шклоўскім раёне. У якасці сведкаў па першым выпадку на суд выклікалі людзей, пра якіх распавядалася ў рэпартажы. Яны заявілі журналістам, што іх выклікалі падманам, паведаміўшы па тэлефоне, што будзе разглядацці справа аб іх высяленні.

19 **ліпеня** суддзя Магілёўскага абласнога суда **Міхаіл Мельнікаў** разгледзеў скаргу журналістаў і пакінуў пастанову ад 29 мая ў сіле.

31 **мая** суд Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці прысудзіў 735 рублёў (312 еўра) штрафу журналістцы з Глыбокага **Таццяне Смоткінай**. Журналістка была аштрафаваная па артыкуле 22.9 КаАП за матэрыял, які быў апублікаваны на сайце "Беларускага Радыё Рацыя", што размешчана ў Польшчы. Пратакол склаў участковы інспектар Докшыцкага РАУС Дзмітрый Юхновіч.

23 **ліпеня** Віцебскі абласны суд не задаволіў скаргу журналісткі Таццяны Смоткінай і пакінуў пастанову Докшыцкага суда ў сіле.

1 **чэрвеня** суд Докшыцкага раёна спыніў адміністрацыйную справу глыбоцкага журналіста-фрылансера **Змітра Лупача**. Як агучыў суддзя Вячаслаў Елісеенка, гэта адбылося ў сувязі з недаказанасцю вінаватасці асобы, у дачыненні якой вядзецца адміністрацыйны працэс. Падчас судовага слухання выявілася неадпаведнасць даты і часу правапарушэння. Лупачу ўдалося даказаць, што 19 красавіка ён быў у іншым месцы.

4 **чэрвеня** суд Гомельскага раёна пакараў журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** максімальным штрафам паводле арт. 22.9 КаАП – 1225 рублёў (520 еўра). Жукоўскі быў прызнаны вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ для польскага тэлеканала "Белсат". Падставай стаў відэасюжэт пра экалагічную праблему з-за сметніка каля вёскі Сцяг Працы пад Гомелем, паказаны ў праграме "Аб'ектыў" 5 красавіка і змешчаны на сайце. Пратакол склаў участковы інспектар райаддзела міліцыі Сяргей Прыманаў.

6 **чэрвеня** суд Цэнтральнага раёна Гомеля аштрафаваў журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** на 980 рублёў (416 еўра). Журналіста судзілі на падставе адразу чатырох пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзеных у адпаведнасці з артыкулам 22.9 КаАП у розных месцах Гомельскай вобласці. Два пратаколы паступілі ў суд з Лоеўскага райаддзела міліцыі, па аднаму — з Кармянскага і Цэнтральнага раёна Гомеля. Суд прызнаў Жукоўскага вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі для тэлеканала "Белсат".

6 **чэрвеня** журналістка "Белсата" **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** была затрыманая недалёка ад месца масавых забойстваў сталінскіх часоў у Курапатах пад Мінскам, дзе яна асвятляла пратэсты грамадскасці супраць адкрыцця рэстарана занадта блізка да брацкай магілы. Калі Андрэева праводзіла прамую трансляцыю, міліцыянт у цывільным груба схапіў яе і зацягнуў у міліцэйскую машыну. Супрацоўнік міліцыі, які адмовіўся прадставіцца або паказаць дакументы, распавёў карэспандэнтцы, што яе дзейнасць была незаконнай. Андрэева была дастаўленая ў аддзяленне міліцыі ў Бараўлянах, дзе правяла каля гадзіны. У адносінах да яе быў складзены пратакол у адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за незаконную вытворчасць і распаўсюд прадукцыі СМІ.

9 **жніўня Кацярына Андрэева (Бахвалава)**, а таксама аператар **Сяргей Кавалёў** былі аштрафаваныя на 980 рублёў кожны ў адпаведнасці з гэтым пратаколам.

7 **чэрвеня** суд Калінкавіцкага раёна пакараў журналіста-фрылансера з Гомеля **Кастуся Жукоўскага** штрафам у памеры 735 рублёў (каля 320 еўра) паводле артыкула 22.9 КаАП. Суд прызнаў незаконным вырабам прадукцыі СМІ з боку журналіста тое, што яго відэа было выкарыстана тэлеканалам "Белсат". Яно тычылася смерці ў час службы ў войску маладога чалавека з вёскі Навінкі Калінкавіцкага раёна.

11 **чэрвеня** суд Глыбоцкага раёна пакараў журналістаў-фрылансераў **Таццяну Смоткіну і Змітра Лупача** штрафамі ў памеры 1102,5 беларускіх рублёў (каля 550 еўра) і 857,5 рублёў (каля 370 еўра) за працу без акрэдытацыі для замежных СМІ. Журналістаў прыцягнулі да адказнасці паводле артыкула 22.9 КаАП. На Таццяну Смоткіну было складзена чатыры пратаколы за публікацыі на сайце "Беларускага Радыё Рацыя", на Змітра Лупача – два – за публікацыі на сайце тэлеканала "Белсат".

11 **ліпеня** суддзя Віцебскага абласнога суда Смалякова разгледзела скаргі глыбоцкіх незалежных журналістаў. Яна пастанавіла зменшыць штраф, накладзены Глыбоцкім судом на Таццяну Смоткіну, з 45 да 35 базавых велічынь (да 857,5 рубля).

14 **чэрвеня Алесь Ліпай,** сузаснавальнік і дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, быў затрыманы пасля вобшуку ў яго кватэры і адвезены на допыт у Дэпартамент фінансавых расследванняў па Мінску і Мінскай вобласці ў сувязі з расследваннем крымінальнай справы (гл. падрабязней "Крымінальныя справы").

21 **чэрвеня** журналісты **Андрэй Козел** і **Вольга Чайчыц** былі аштрафаныя за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі судом Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Штрафы на падставе арт. 22.9 КаАП склалі па 980 рублёў кожнаму.

26 **чэрвеня** ў Мінску былі аштрафаваныя за незаконны выраб прадукцыі СМІ (арт. 22.9 КаАП) 5 журналістаў, што супрацоўнічалі з тэлеканалам "Белсат": **Кацярына Андрэева (Бахвалава) і Андрэй Козел** на 1102,5 рублі кожны, **Таццяна Уласенка** на 490 рублёў, **Таццяна Белашова і Віталь Дубікаў** на 857,5 рубля кожны. Прычынай для судовых пастаноў стала праца журналістаў падчас акцыі пратэсту «Чарнобыльскі шлях», якая адбывалася 26 красавіка.

28 **чэрвеня** суд Цэнтральнага раёна Мінску аштрафаваў журналістку **Кацярыну Андрэеву (Бахвалаву)** і відэааператара **Сяргея Кавалёва** на 735 рублёў (каля 320 еўра) кожнага за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі. Яны былі прызнаныя вінаватымі паводле арт. 22.9 КаАП за працу на мітынгу прафсаюзаў 1 мая 2018 г. **Паводле пастановы суддзі, Андрэева і Кавалёў «незаконна вырабілі» відэасюжэт, які нібыта выйшаў у эфіры «Белсату» ў праграме «Навіны», хаця праграмы з такой назваю на тэлеканале не існуе**.

28 **чэрвеня** пазаштатны фотажурналіст інфармацыйнага агенцтва БелаПАН **Андрэй Шаўлюга** быў затрыманы ў Мінску каля Міністэрства ўнутраных спраў і правёў ноч пад вартай. Шаўлюга быў затрыманы разам з трыма навучэнцамі "Беларускага свабоднага тэатра" падчас пратэста ў

падтрымку ЛГБТ-супольнасці. Яны заклікалі спыніць уціск на яе, паставіўшы клумбу ў колерах вясёлкі ля ног статуі паліцыянта. Гэта адбывалася ў адказ на заяву з асуджэннем аднаполых адносін, зробленую Міністэрствам ўнутраных спраў пасля таго, як амбасады ЗША і Вялікабрытаніі вывесілі вясёлкавы сцяг у Міжнародны дзень барацьбы з гамафобіяй.

29 **чэрвеня** ўсе затрыманыя паўсталі перад судом. Суд Першамайскага раёна аштрафаваў Шаўлюгу на 73,5 руб. (32 еўра) за непадпарадкаванне праваахоўнікам. Паводле пратаколу, журналіст нібыта не выходзіў з міліцэйскага аўтамабіля, калі яго даставілі ў пастарунак. Удзельнікі акцыі атрымалі такія самыя штрафы.

5 **ліпеня** ўчастковы інспектар Сяргей Прымакоў **наведаў незалежную** журналістку з Гомеля **Ларысу Шчыракову** і склаў адміністрацыйны пратакол за працу без акрэдытацыі на карысць тэлеканала "Белсат" (артыкул 22.9 КаАП). Нагодай для яго стаў фотарэпартаж, які **быў змешчаны** на сайце тэлеканала 16 мая пад назвай "Краявіды, ад якіх займае дух. Найвышэйшыя горы ў свеце вачыма гамельчукоў". У яго ўвайшлі фотаздымкі, якія Шчыракова рабіла ў Непале ў Гімалаях. Паводле пратакола, яна нібыта размясціла "артыкул у выглядзе сюжэта ў эфіры тэлеканала", хоць фотарэпартаж быў змешчаны толькі на сайце.

7 **ліпеня** ў судзе Савецкага раёна Мінска аштрафавалі журналістаў-фрылансэраў **Станіслава Івашкевіча ды Ірыну Арахоўскую** на суму 857,5 рубля (каля 370 еўра) кожнага за супрацу з тэлеканалам «Белсат» без акрэдытацыі.

7 **ліпеня** пастановай суддзі суда Савецкага раёна Гомеля фрылансер Андрэй Толчын быў пакараны штрафам на суму 980 рублёў (каля 420 еўра) за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі. Толчына аштрафавалі за тры відэасюжэты, знятыя ў Рэчыцы і Гомелі.

7 **ліпеня** журналістка тэлеканала "Белсат" **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** была аштрафаваная ў Мінску на суму 1225 рублёў на падставе арт. 22.9 КаАП (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ).

9 **ліпеня** суд Рэчыцкага раёна прызнаў журналістку-фрылансера **Ларысу Шчыракову** вінаватай ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі і аштрафаваў яе на 980 рублёў. Яна была пакараная за сюжэт "Сёння ў бітумнай яме гіне жывёла, заўтра – людзі?", паказаны на "Белсаце".

11 **ліпеня** суддзя Суда Цэнтральнага раёна Гомеля аштрафаваў журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** паводле артыкула 22.9 КаАП на суму 735 рублёў (каля 320 еўра), прызнаўшы яго вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ для телеканала "Белсат". Яго прыцягнулі да адказнасці за выраб двух відэасюжэтаў у Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласц, нягледзячы на тое, што за гэтыя самыя сюжэты 7 ліпеня 2018 г. у судзе Савецкага раёна Гомеля ужо быў аштрафаны Андрэй Толчын. Толчын засведчыў на працэсе Жукоўскага, што менавіта ён здымаў рэпартажы, аднак гэта не паўплывала на рашэнне суддзі.

12 **ліпеня** суд Чыгуначнага раёна Гомеля адправіў на дапрацоўку адміністрацыйную справу **Арцёма Шапарава**. Была прынятая да ўвагі скарга блогера на парушэнне ягонага права на ўдзел у правядзенні экспертызы, зробленай, як палічыў Шапараў, аднабакова і няякасна. Раней Савецкі райаддзел міліцыі правёў праверку на падставе заявы дырэктаркі школы Ніны Старажэнкі (*гл. падрабязней у "Іншыя судовыя справы"*), але там не знайшлі пацвярджэння абразы. Справу перакваліфікавалі ў адпаведнасці з арт. 17.10 КаАП (прапаганда і распаўсюд нацысцкай сімволікі). Застаўку да відэасюжэта міліцыя накіравала на экспертызу. Вынікі яе разам з пратаколам аб адміністрацыйным парушэнні былі перададзеныя на разгляд у суд. 31 **ліпеня** Шапараў атрымаў ліст, у якім паведамлялася, што адміністрацыйная справа за прапаганду і распаўсюд нацысцкай сімволікі супраць яго спыненая ў сувязі з заканчэннем тэрміну прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

13 **ліпеня** ў Мінску журналіст-фрылансер **Алесь Сіліч** быў пакараны штрафам у памеры 980 рублёў паводле артыкула 22.9 КаАП. Суд прызнаў незаконным вырабам прадукцыі СМІ з боку журналіста тое, што яго відэа было выкарыстана тэлеканалам "Белсат".

20 **ліпеня** журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** на шэсць гадзін затрымалі і абвінавацілі ў дробным хуліганстве падчас наведвання ім Гомельскай абласной дзяржаўтаінспекцыі. Жукоўскі прыйшоў у мясцовую ДАІ, каб вярнуць правы кіроўцы, якіх яго пазбавілі год таму, але міліцыянты адмовіліся вяртаць дакумент, нават не патлумачыўшы прычынаў. Тады журналіст папрасіў азнаёміць яго з матэрыяламі ягонай справы. Як распавядае Жукоўскі, калі ён пачаў фатаграфаваць міліцыянтаў, яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве, адвезлі спачатку ў Чыгуначны РАУС, а пасля павезлі ў суд Чыгуначнага раёна. Але з машыны самастойна выйсці журналіст ужо не змог. Праз высокі ціск і скаргі на боль яго адвезлі ў шпіталь хуткай медычнай дапамогі.

20 **ліпеня** журналістка "Белсата" **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** і аператар **Сяргей Кавалёў** былі затрыманыя міліцыяй у Курапатах пад Мінскам. Гэта адбылося пасля прэс-канферэнцыі Леаніда Зайдэса, уладальніка рэстарана. Яны ўзялі інтэрв'ю ў актывістаў, якія пратэставалі супраць адкрыцця рэстарана занадта блізка да брацкай магілы. Журналісты былі дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі Бараўлян на міліцэйскай машыне. У адносінах да іх быў складзены пратакол аб адмінстрацыйным правапарушэнні ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і / або распаўсюд прадукцыі СМІ). Абодва былі адпушчаны на свабоду праз гадзіну.

20 **ліпеня** журналістка тэлеканала "Белсат" **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** была аштрафавана ў Мінску на суму 1225 рублёў на падставе арт. 22.9 КаАП (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ).

23 **ліпеня** у другой палове дня ў Гродна мясцовыя журналісты-фрылансеры, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат", – **Аляксандр Дзянісаў** і **Аляксей Кайрыс** былі затрыманыя на вуліцы людзьмі ў цывільным і больш за дзве гадзіны знаходзіліся ў аддзяленні міліцыі, пасля чаго іх павезлі дахаты, каб правесціператрусы (*гл. падрабязней "Вобшукі, выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі"*). Журналістам сказалі, што на іх ёсць скарга за абразу і міліцыя пачала праверку па ёй. Верагодна, гэта тычылася меркаванай абразы **начальніцы ўчастку тэхнічнага абслугоўвання інтэрнатаў** Ленінскага раёна Гродна Святланы Жылінскай, якая была згаданая ў рэпартажы "Белсата", апублікаваным 20 красавіка 2018 г.

25 **ліпеня** прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлем Дэзірэ заклікаў спыніць ціск на журналістаў "Белсата". *"Затрыманне,ператрусы і канфіскацыя абсталявання журналістаў "Белсат" Аляксандра Дзянісава і Аляксея Кайрыса ў межах расследвання справы за абразу і працу без акрэдытацыі – гэта абмежаванне свабоды СМІ. Беларускія улады мусяць зняць празмерныя абмежаванні, звязаныя з акрэдытацыяй",* – **напісаў** прадстаўнік АБСЕ на сваёй старонцы ў Twitter.

24 **ліпеня** блогер **Андрэй Павук** з Акцябрскага Гомельскай вобласці быў дастаўлены ў аддзяленне міліцыі і прабыў там каля трох гадзін. У адносінах да яго быў складзены адміністрацыйны пратакол у адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Ён быў абвінавачаны ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі. 23 **жніўня** суд Акцябрскага раёна аштрафаваў Павука на 735 рублёў (каля 300 еўра) за відэасюжэт «Блогеру пагражаюць за фота чыноўнікаў на майцы», паказаны на "Белсаце" 8 ліпеня, хаця ён быў не стваральнікам, а галоўным героем сюжэта. Як было адзначана ў пастанове суда, Павук апытваў мінакоў, *«фактычна выконваючы функцыі журналіста замежнага СМІ без акрэдытацыі МЗС».*

25 **ліпеня** суд Дзяржынскага раёна прызнаў журналістку-фрылансера **Вольгу Чайчыц,** якая супрацоўнічае з тэлеканалам "Белсат" вінаватай ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі і аштрафаваў яе на 980 рублёў.

27 **ліпеня Сяргей Пятрухін**, які вядзе відэаблог "Народны рэпарцёр", быў затрыманы каля свайго дома ў Брэсце пасля адмовы дазволіць міліцыі туды ўвайсці. Супрацоўнік міліцыі зачытаў ордэр наператрус у кватэры блогера. Супрацоўнік міліцыі таксама спаслаўся на скаргу на абразу, пададзеную міліцэйскім супрацоўнікам Рабушкам, які затрымліваў блогера раней у 2018 г. Калі Пятрухін адмовіўся дазволіць міліцыі ўвайсці ў будынак, пакуль не прыедзе адвакат, яго затрымалі. У аддзяленні міліцыі Пятрухіну было прад'яўленае абвінавачванне ў непадпарадкаванні міліцыі. Ён быў заключаны пад варту. 1 **жніўня** суд Ленінскага раёна Брэста спыніў яго справу за адсутнасцю складу правапарушэння.

3 **жніўня** суддзя суда Бярозаўскага раёна прызнала незалежную журналістку **Тамару Шчапёткіну** вінаватай у "незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі" без акрэдытацыі і пакарала яе штрафам у памеры 612,5 рублёў (260 еўра). Падставай для гэтага сталі два рэпартажы для размешчанага ў Польшчы "Беларускага Радыё Рацыя".

6 **жніўня** суддзя суда Буда-Кашалёўскага раёна Кастанцін Скорын спыніў адміністрацыйную справу ў адносінах да гомельскай журналісткі-фрылансера **Ларысы Шчыраковай**, якая ў маі зняла ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве СВК "Крыўск" відэасюжэт "Бунт даярак", паказаны тэлеканалам "Белсат". У судовай пастанове, дасланай журналістцы, паведамлялася, што справа спыненая ў звязку з заканчэннем двухмесячнага тэрміну, цягам якога магчыма прыцягваць парушальніка да адказнасці.

13 **жніўня** журналістка тэлеканала "Белсат" **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** была аштрафаваная ў Мінску на суму 1225 рублёў на падставе арт. 22.9 КаАП (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ).

15 **жніўня** фрылансера **Яўгена Скрабца** судзілі ў Лунінцы Брэсцкай вобласці паводле арт. 22.9 КаАП РБ «Незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі» і прызначылі яму штраф у памеры 480 рублёў (каля 200 еўра).

Журналіста абвінавацілі ў супрацоўніцтве з замежным СМІ без акрэдытацыі праз матэрыял, які выйшаў на сайце "Радыё Рацыя" 18 чэрвеня 2018 г. 12 **верасня** была разгледжана скарга Скрабца ў Брэсцкім абласным судзе – пастанова суда першай інстанцыі засталася без зменаў.

29 **жніўня** суддзя суда Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці прызнала журналістку-фрылансера **Тамару Шчапёткіну** вінаватай у парушэнні артыкула 22.9. КаАП і прызначыла штраф памерам 735 рублёў (каля 300 еўра). Адміністрацыйная справа была заведзеная з-за рэпартажа, які з'явіўся на сайце "Радыё Рацыя" і быў прысвечаны закрыццю свінакомплекса ў Іванаўскім раёне.

30 **жніўня** раніцай супрацоўнікі АМАП ўварваліся і абшукалі кватэру, якая належыць брэсцкаму блогеру **Сяргею Пятрухіну.** Пасля таго як вобшук скончыўся, Пятрухін у кайданках быў дастаўлены ў РУУС Ленінскага раёна Брэста. Прыкладна ў дзве гадзіны дня ён быў вызвалены. У ліпені ў адносінах да Пятрухіна была ўзбуджаная крымінальная справа па абвінавачванні ў абразе супрацоўніка міліцыі (*гл. падрабязней "Крымінальныя справы"*).

3 **верасня** ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска на аўтарку "Белсата" **Ірыну Арахоўскую** быў накладзены штраф у памеры 490 рублёў (каля 200 еўра). Журналістка была пакараная ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ) за публікацыю сваіх фотаздымкаў на belsat.eu (сайт тэлеканала "Белсат"). 2 жніўня 2018 г. дэсантнікі некаторых постсавецкіх краін, у тым ліку Беларусі, адзначалі Дзень ваенна-паветраных сіл. Многія з іх удзельнічалі ў традыцыйных купаннях у фантанах. У той дзень падчас фатаграфавання Арахоўская была папярэджана маёрам міліцыі Дзмітрыям Шантырам, што ў выпадку з'яўлення фатаграфій дэсантнікаў на belsat.eu будзе складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

3 **верасня** каля 8:45 на аўтобусным прыпынку ў Брэсце быў затрыманы відэаблогер **Сяргей Пятрухін**. Яму паведамілі, што ён будзе дастаўлены на псіхіятрычную экспертызу ў межах крымінальнай справы за паклёп і абразу, распачатай супраць яго ў ліпені (*гл. падрабязней у "Крымінальныя справы"*).

4 **верасня** суддзя суда Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці аштрафаваў незалежнага журналіста з Глыбокага **Змітра Лупача** на 882 беларускіх рублёў (каля 360 еўра) за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" па арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Гэтым разам яго судзілі за расповед аб карупцыі былога старшыні Браслаўскага райвыканкама і яго жонкі, у якім мясцовыя жыхары выказалі сваё меркаванне па гэтым пытанні. 10 **верасня** суддзя Святлана Іванова ў Віцебскім абласным судзе пакінула пастанову раённага суда без зменаў.

5 **верасня** суд у Смалявічах наклаў штраф у памеры 1225 рублёў (500 еўра) на журналістку **Вольгу Чайчыц** за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат". Яе асудзілі за рэпартаж пра пратэст мясцовых жыхароў супраць закрыцця крамы.

10 **верасня** суддзя суда Дзяржынскага раёна прысудзіў штраф у памеры 980 рублёў (395 еўра) журналістцы **Вользе Чайчыц**. Яна была аштрафаваная за фотарэпартаж пра пікетаванне рэстарана ў Курапатах пад Мінскам, на месцы масавага пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.

11 **верасня** суд Бабруйска Магілёўскай вобласці прысудзіў штраф у памеры 980 рублёў (каля 395 еўра) аператару-фрылансеру **Сяргею Кавалёву**. Журналіст быў прызнаны вінаватым у незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі СМІ за асвятленне ў ліпені прэс-канферэнцыі Леаніда Зайдэса, аднаго з уладальнікаў рэстарана каля брацкай магілы ў Курапатах.

11 **верасня** суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы прызнаў журналістку **Тамару Шчапёткіну** вінаватай у парушэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэнняў і прызначыў ёй штраф у памеры 980 рублёў.

Шчапёткіна **абвінавачвалася** ў тым, што за два месяцы да гэтага зрабіла інтэрв'ю з удзельнікамі імпрэзы ў музеі паэта Адама Міцкевіча ў Завоссі Баранавіцкага раёна, а пасля размясціла гэты матэрыял на сайце "Радыё Рацыя". 11 **кастрычніка** Брэсцкі абласны суд пакінуў пастанову аб штрафе ў сіле.

11 **верасня** ў Мінску былі аштрафаваныя двое журналістаў на падставе арт. 22.9 КаАП за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат". **Кацярына Андрэева (Бахвалава)** была пакараная штрафам у памеры 882 рублі. **Алесь Сіліч** атрымаў штраф у памеры 857,5 рублі.

16 **верасня** суд Савецкага раёна Мінска прысудзіў штраф у памеры 1225 рублёў (каля 500 еўра) журналістцы **Кацярыне Андрэевай (Бахвалавай)**. Журналістку прызналі вінаватай у незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі СМІ праз асвятленне ў ліпені 2018 г. прэс-канферэнцыі бізнэсмена Леаніда Зайдэса, звязанай з адкрыццем рэстарана каля Курапат – месца масавых забойстваў у сталінскія часы.

21 **верасня** суддзя суда Цэнтральнага раёна Гомеля прызнала незалежнага журналіста **Кастуся Жукоўскага** вінаватым ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і аштрафавала яго на 735 беларускіх рублёў (каля 300 еўра). Пратакол аб адміністрацыйным праванарушэнні быў складзены ў Кармянскім РАУС з-за рэпартажа, у якім дэманстравалася, як мясцовы раённы спажывецкі саюз не ў стане забяспечыць крамы самымі неабходнымі прадуктамі. Пікантнасць сітуацыі палягала ў тым, што відэа было знята фрылансерам Андрэем Толчыным, які прыйшоў у суд і пацвердзіў гэта. Жукоўскі быў толькі кіроўцам аўтамабіля. Тым не менш, суддзя Осіпава праігнаравала гэтыя доказы і пакарала

журналіста. Кастусь Жукоўскі прыйшоў на суд у турэмным адзенні, каб выказаць пратэст супраць абмежаванняў свабоды слова.

25 **верасня** вядомы блогер з Акцябрскага Гомельскай вобласці **Андрэй Павук** быў затрыманы міліцыяй, калі выказаў жаданне прысутнічаць на сесіі раённага савета дэпутатаў. Павуку сказалі, што яму нельга там знаходзіцца. Яго вывеў супрацоўнік міліцыі і даставіў у аддзяленне міліцыі, нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з законам любая асоба мае права прысутнічаць на гэтых паседжаннях. Блогер быў апытаны і адпушчаны. Ён падаў скаргу на дзеянні міліцыі ў пракуратуру. 6 **кастрычніка** ў сваім пісьмовым адказе пракурор Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці Андрэй Лявончык паведаміў блогеру, што няма падставаў прымаць меры пракурорскага рэагавання, бо міліцыя адрэагавала на выклік з залы пасяджэнняў сесіі райсавета і, паколькі сам Павук адмовіўся пакінуць дэпутацкае крэсла, маёр Гапоненка яго *ўзяў пад руку і выправадзіў з залы паседжанняў".*

26 **верасня** ў Мінску былі аштрафаваныя на падставе арт 22.9 КаАП за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" **Таццяна Ўласенка і Сяргей Краўчук**. Іх штрафы склалі адпаведна 735 і 980 рублёў.

28 **верасня** ў Слоніме журналістка **Вольга Чайчыц** была аштрафаваная на 980 рублёў (каля 400 еўра) за незаконную вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ (артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Гэта адбылося пасля таго, як 23 жніўня мясцовы чыноўнік у Слоніме Гродзенскай вобласці не дазволіў ёй і аператару Аляксандру Зянкову працаваць, выклікаўшы міліцыю (гл. падрабязней "Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі").

30 верасня брэсцкага блогера **Сяргея Пятрухіна** затрымалі ў той момант, калі ён вяртаўся дадому з плошчы Леніна, дзе вёў на YouTube-канале "Народны рэпарцёр" анлайн-трансляцыю традыцыйнай сустрэчы на плошчы Леніна тых, хто выступае супраць будаўніцтва акумулятарнага завода. Супрацоўнікі міліцыі прымусілі блогера вярнуцца на плошчу, а пасля адвезлі ў Ленінскі РАУС Брэста (ноч ён правёў у ізалятары часовага ўтрымання). 1 **кастрычніка** пачаўся разгляд ягонай справы ў судзе. 4 **кастрычніка** суддзя Аляксандр Семянчук прызнаў блогера вінаватым паводле часткі 3 артыкула 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве) і пакараў штрафам у памеры 1225 рублёў.

16 **кастрычніка** журналістка **Вольга Чайчыц**, якая супрацоўнічае з "Белсатам", была затрыманая міліцыяй у Курапатах пад Мінскам, дзе збіралася рабіць рэпартаж. Журналістка была дастаўленая ў аддзяленне міліцыі Бараўлянаў для складання пратакола за яе рэпартаж, паказаны на "Белсаце" днём раней. Там супрацоўнік міліцыі Дзмітрый Смык прымусова адабраў у яе тэлефон і выдаліў усе відэаздымкі міліцыі, зробленыя ў той час, як яе затрымлівалі. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні за «здымкі без акрэдытацыі» ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях быў складзена ў адносінах да Чайчыц пасля таго, як яна правяла каля трох гадзін у міліцыі. Затым журналістка была вызваленая.

16 **кастрычніка** суддзя ў судзе Жабінкаўскага раёна прызнаў вінаватымі ў незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) аўтараў "Белсата" з Брэста: **Алеся Ляўчука** і **Мілану Харытонаву**. Алесь Ляўчук павінен заплаціць максімальны штраф, прадугледжаны артыкулам – 1225 беларускіх рублёў (506 еўра), а яго калега і жонка Мілана Харытонава – 490 рублёў (202 еўра). Журналісты былі аштрафаваныя за здымкі аповеду аб чуме свіней у вёсцы Азяты Жабінкаўскага раёна без акрэдытацыі ў якасці замежных журналістаў. Мясцовыя ўлады спрабавалі схаваць інфармацыю пра гэтую сітуацыю.

18 **кастрычніка** незалежную журналістку **Аліну Літвінчук** пакаралі штрафам у памеры 490 рублёў згодна з пастановай суддзі брэсцкага суда Андрэя Канюшкі. Журналістку судзілі паводле артыкула 22.9 за *„незаконны выраб прадукцыі СМІ, злоўжыванне правамі і абавязкамі журналіста".* Справа тычылася матэрыяла, які з'явіўся на сайце Беларускага Радыё Рацыя – пра мерапрыемства, якое праходзіла 8 верасня ў бібліятэцы.

22 **кастрычніка** ўчастковы інспектар Цэнтральнага РАУС Гомеля Аляксандр Гусеў паведаміў журналістке-фрылансеру **Марыі Булавінскай-Ляпінай**, што склаў у дачыненні да яе адміністрацыйны пратакол паводле артыкула 22.9 КаАП за выраб без акрэдытацыі дакументальнага фільма "Бяздомны горад". Фільм быў паказаны 6 верасня на тэлеканале "Белсат". На сайце тэлеканала Булавінская была пазначана як рэжысёр фільма. 21 лістапада суд Цэнтральнага раёна Гомеля спыніў адміністрацыйную справу ў дачыненні да Марыі Булавінскай-Ляпінай. Адпаведную пастанову вынес суддзя Сяргей Кармановіч, адзначыўшы, што сышоў двухмесячны тэрмін для прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці.

23 **кастрычніка** журналісты з Брэста **Алесь Ляўчук** і **Мілана Харытонава** былі аштрафаваныя суддзёй суда Камянецкага раёна за супрацоўніцтва з "Белсатам" у адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Суд прысудзіў Ляўчуку штраф у памеры 1225 рублёў (506 еўра) – максімальнае пакаранне па гэтым артыкуле. Штраф Харытонавай склаў 980 беларускіх рублёў (каля 405 еўра). Такім чынам, за рэпартаж пра падрыхтоўку Высокага да абласных "Дажынак" журналісты былі аштрафаваныя больш чым на 900 еўра агулам (Ляўчук і Харытонава – сужэнцы). 6 снежня ў Брэсцкім абласным судзе разглядалася скарга Харытонавай і Ляўчука — пастанова суда Камянецкага раёна была пакінута ў сіле.

25 **кастрычніка** суд Жабінкаўскага раёна пакараў штрафамі брэсцкіх журналістаў **Алеся Ляўчука і Мілану Харытонаву** за працу для "Белсата" без акрэдытацыі. Штрафы журналістаў адпаведна склалі 1 225 беларускіх рублёў (506 еўра) і 960 беларускіх рублёў (каля 450 еўра). Падставай для пакарання стаў сюжэт, прысвечаны становішчу на нафтабазе ў Жабінцы, дзе рабочыя больш за год своечасова не атрымлівалі заробак.

25 **кастрычніка Мікола Балабан**, украінскі журналіст і выдавец "The Village Украіна", які прыбыў у Мінск у якасці эксперта на Форум "Медыяменеджмент и IT", быў затрыманы ў Мінску. Міліцыя пастукала ў гатэльны пакой журналіста раніцай і адвезла яго ў аддзяленне. Праз шэсць гадзін ён быў вызвалены і пакінуў Беларусь у той жа дзень. Пазней журналіст патлумачыў, што міліцыя памылкова прыняла яго за цёзку – існуе яшчэ адзін Мікалай Балабан ва Ўкраіне, аўтар сайта Informnapalm, які выкрывае агрэсію Расеі ва Ўкраіне.

25 **кастрычніка** суддзя суда Буда-Кашалёўскага раёна аштрафаваў журналіста-фрылансера з Гомеля **Андрэя Толчына** на 735 рублёў (прыкладна 300 еўра) за працу без акрэдытацыі. Пратакол паводле артыкула 22.9 КаАП у адносінах да фрылансера мясцовая міліцыя склала на падставе выхаду ў эфір 7 верасня відэасюжэта на тэлеканале "Белсат", у якім гаворка ішла пра дэфіцыт паліва ў адным з саўгасаў Буда-Кашалёўскага раёна.

30 **кастрычніка** супрацоўнік "Радыё Рацыя" **Яўген Скрабец**, а таксама журналісты **Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава**, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат", былі аштрафаваны ў Брэсце паводле артыкула 22.9 КаАП (незаконны выраб і/або распаўсюд прадукцыі СМІ). Скрабец быў пакараны штрафам у памеры 490 беларускіх рублёў (каля 200 еўра) за рэпартаж "Графіці на сценах Берасцейскай фартэцыі", апублікаваны на сайце "Радыё Рацыя". Ляўчук і Харытонава былі прыцягнутыя да адказнасці за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат". 4 кастрычніка 2018 г. яны бралі інтэрв'ю ў блогера Сяргея Пятрухіна і грамадскага актывіста Рыгора Астапука пра пераслед працаўнікаў будаўніцтва акумулятарнага завода каля Брэста. Штрафы склалі адпаведна 1225 беларускіх рублёў (каля 500 еўра) і 735 рублёў (каля 300 еўра). 6 **снежня** ў Брэсцкім абласным судзе суддзя Руслана Сянько адмяніла пастанову ў адносінах да **Алеся Ляўчука і Міланы Харытонавай** і накіравала адміністрацыйную справу на разгляд да іншага суддзі.

1 **лістапада** суддзя суда Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці прызнаў вінаватым незалежнага журналіста **Кастуся Жукоўскага** ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і/або распаўсюд прадукцыі СМІ) і

аштрафаваў яго на 980 беларускіх рублёў (каля 400 еўра). Суддзя прыйшоў да высновы, што Жукоўскі, не акрэдытаваны ў якасці замежнага журналіста, незаконна браў інтэрв'ю ў працаўнікоў саўгаса блізу сяла Рагінь, такім чынам ён незаконна вырабіў прадукцыю СМІ, якая пазней транслявалася ў праграме "Аб'ектыў" на "Белсаце".

1 **лістапада** Рэчыцкі раённы суд спыніў адміністрацыйную справу паводле артыкула 22.9 КаАП супраць журналіста-фрылансера Андрэя Мядзведзева.

Суддзя Марына Кацуба, якая разглядала дасланы з міліцыі пратакол, прыйшла да высновы, што няма доказаў віны журналіста наконт вырабу прадукцыі СМІ без акрэдытацыі для замежнага тэлеканала. Адміністрацыйны пратакол у дачыненні да Мядзведзева склаў участковы інспектар Рэчыцкага РАУС Аляксей Цімошчанка пасля таго, як у верасні журналіст патрапіў у сюжэт тэлеканала "Белсат" пад назвай **"Змагаешся за свае правы – будзь гатовы да ціску з боку праваахоўнікаў"**. У ім распавядалася пра жыхара Рэчыцы Дзяніса Барсукова, супраць якога міліцыя аднавіла закрытую паўгода таму крымінальную справу. Участковы не стаў высвятляць, хто зняў сюжэт пра Барсукова – пабачыўшы ў кадры журналіста Мядзведзева, ён зрабіў выснову, што гэта і ёсць аўтар.

2 **лістапада** суддзя суда Ленінскага раёна Брэста аштрафаваў незалежных журналістаў **Алеся Ляўчука, Мілану Харытонаву** і **Яўгена Скрабца** на 612,5 рубля кожнага за матэрыялы пра пратэст жыхароў Брэста супраць будаўніцтва акумулятарнага завода побач з горадам – за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Цягам папярэдніх трох тыдняў Ляўчука і Харытонаву, якія не толькі працуюць разам, але і знаходзяцца ў шлюбе, ужо судзілі за іх працу на "Белсат" без акрэдытацыі пяць разоў, а агульная сума ўсіх штрафаў дасягнула прыблізна 3900 еўра. 13 **снежня Яўген Скрабец** безвынікова абскардзіў пастанову ад 2 лістапада ў Брэсцкім абласным судзе.

2 **лістапада** суд Кастрычніцкага раёна Гродна прызнаў музыку і журналіста **Алеся Дзянісава** вінаватым у распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў. Суддзя Валерый Шпак, які разглядаў адміністрацыйную справу паводле ч. 2 арт. 17.11 КаАП (распаўсюджванне, выраб, захоўванне, перавозка інфармацыйнай прадукцыі, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе такую дзейнасць), пакараў журналіста-фрылансера штрафам у памеры 612,5 рубля. Падставай для адміністрацыйнага пераследу стаў перапост Дзянісавым на сваю старонку ў сацыяльнай сетцы "ВКонтакте" двух відэа пра ўдзел брэсцкіх анархістаў у леташнім пратэстным "маршы дармаедаў". Перапост быў зроблены са старонкі анархістаў «Революционное действие» ў сакавіку 2017 г, перш чым гэты сайт быў прызнанай судом экстрэмісцкім і ўключаны ў пералік экстрэмісцкіх матэрыялаў.

5 **лістапада** журналіст Еўрарадыё **Раман Пратасевіч** быў затрыманы міліцыяй у Мінску. Зранку міліцыя прыбыла на кватэру журналіста. Ён быў дастаўлены ў РУУС Першамайскага раёна Мінска і адпушчаны праз тры гадзіны. Журналіст расказаў, што ў аддзяленні міліцыі яму не паказалі ніякіх дакументаў, нічога наогул не сказалі. Калі ён спытаў, што за справа, яму нічога не адказалі. У Пратасевіча ўзялі мабільны тэлефон і доўга нешта ў ім шукалі, рабілі яго здымкі. Падчас агляду тэлефона ў Пратасевіча спыталі, чаму ён часта фатаграфуе мітынгі, чаму тут шмат здымкаў супрацоўнікаў міліцыі. Пасля міліцыянты паведамілі, што ў дачыненні да Пратасевіча нібыта завялі справу за «хуліганства» (ч. 1 арт. 339 Крымінальнага кодэкса). Нібыта больш за месяц таму, дзесьці 20 верасня (дакладную дату не назвалі) ён ехаў на аўтобусе і адбыўся нейкі канфлікт, хтосьці ўдарыў кіроўцу аўтобуса – і кіроўца па фота апазнаў у нападніку Пратасевіча.

5 **лістапада** суд Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці прысудзіў незалежнай журналістцы **Тамары Шчапёткінай** штраф у памеры 857,5 рубля (358 еўра).

Яна была прызнаная вінаватай у незаконным вырабе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі за сюжэт, які быў размешчаны на сайце "Радыё Рацыя". 6 **снежня** Брэсцкі абласны суд пакінуў без задавальнення скаргу Шчапёткінай на пастанову суда першай інстанцыі.

8 **лістапада** ў Гомелі незалежны журналіст **Кастусь Жукоўскі** быў аштрафаваны на 735 рублёў (307 еўра) суддзёй суда Цэнтральнага раёна, які прызнаў яго вінаватым у «незаконнай вытворчасці прадукцыі СМІ» ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Прычынай для гэтага стаў сюжэт, які з'явіўся на сайце тэлеканала "Белсат" 10 кастрычніка 2018 г. У ім распавядалася пра пратэст працаўнікоў аграпрадпрыемства «Някрашынскі» Акцябрскага раёна ў адказ на рашэнне раённага начальства звольніць іх дырэктара.

13 **лістапада** брэсцкі блогер **Сяргей Пятрухін** быў затрыманы, калі праводзіў здымкі у аддзяленні міліцыі. Ён правёў ноч у ізалятары часовага ўтрымання Ленінскага РАУС і быў выпушчаны 14 лістапада. Па словах Пятрухіна, яго абвінавацілі ў няяўке ў аддзяленне міліцыі па павестцы ў нядзелю, 4 лістапада, нягледзячы на тое, што ён паведаміў ім пра важкія прычыны, па якіх не мог прыйсці і дадаў, што можа прыйсці ў любы іншы дзень, акрамя выходных. У адносінах да Пятрухіна быў складзены пратакол за няяўку, таксама яму ўручылі яшчэ дзве позвы – у суд на 16 лістапада і ў аддзяленне міліцыі на 18 лістапада, у нядзелю. Пятрухін упэўнены, што ён быў выкліканы ў міліцыю ў нядзелю, каб прадухіліць наведванне ім аднаго з штотыднёвых пратэстаў супраць будаўніцтва акумулятарнага завода на галоўнай плошчы Брэста. Яны асвятляліся ў яго відэаблогу з пачатку 2018 г. 23 **лістапада** суд Ленінскага раёна Брэста прызнаў Пятрухіна вінаватым паводле артыкула 24.6 Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях (ухіленне ад яўкі ў орган, які вядзе адміністрацыйны альбо крымінальны працэс) і аштрафаваў на 245 рублёў.

13 **лістапада** суд Светлагорскага раёна пакараў гомельскіх журналістаў-фрылансераў **Андрэя Толчына** і **Кастуся Жукоўскага** максімальным штрафам паводле артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – 1 225 рублёў (510 еўра) кожнага. Яны былі прызнаныя вінаватымі ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі для тэлеканала "Белсат".

14 **лістапада** фрылансерка **Мілана Харытонава** была аштрафаваная на 612,5 рубля (255 еўра) суддзёй суда Маскоўскага раёна Брэста. Журналістку прызналі вінаватай на падставе артыкула 22.9 КаАП (незаконны выраб и распаўсюд прадукцыі СМІ) за тое, што 4 кастрычніка яна сфатаграфавала ў пад'ездзе ўласнага дома, як супрацоўнік Маскоўскага РАУС Брэста Эдуард Уласюк уручае позву ў міліцыю яе мужу і калегу Алесю Леўчуку. Фатаграфія пазней з'явілася на сайце тэлеканала "Белсат".

15 **лістапада** суд Гомельскага раёна пакараў журналістаў-фрылансераў **Кастуся Жукоўскага і Андрэя Толчына** штрафамі на падставе артыкула 22.9 КаАП – кожнага на 490 рублёў.

3 **снежня** суддзя суда Калінкавіцкага раёна пастанавіў аштрафаваць журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** на 980 рублёў (каля 400 еўра) на падставе арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Чатыры адміністрацыйныя пратаколы супраць Жукоўскага і яго калегі Андрэя Толчына склаў участковы інспектар мясцовага РАУС Сяргей Ціхіня: два – за відэасюжэт "У Калінкавічах развальваецца шматкватэрны жылы дом", яшчэ два – за расповед пра тое, як райвыканкам дырэктыўным лістом абавязаў гаспадаркі раёна арганізаваць продаж яблык насельніцтву і даць справаздачу пра выкананне.

5 **снежня** суддзя суда Калінкавіцкага раёна пастанавіў аштрафаваць журналіста-фрылансера **Андрэя Толчына** на 1053,5 рубля (каля 430 еўра) па той самай справе, па якой на дзень раней быў аштрафаваны яго калега Кастусь Жукоўскі *(гл. вышэй)*.

5 **снежня** суд Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці пакараў журналістаў-фрылансераў **Кастуся Жукоўскага і Андрэя Толчына** штрафамі на падставе артыкула 22.9 КаАП – кожнага на 735 рублёў. У Лунінцы фрылансераў прызналі вінаватымі ў незаконным вырабе для тэлеканала "Белсат" відэасюжэта пра жудаснае забойства немаўляці.

6 **снежня** суд Гомельскага раёна прызначыў штрафы па 490 рублёў фрылансерам **Кастусю Жукоўскаму** і **Андрэю Толчыну**. У Гомельскім раёне журналісты запісалі сведчанне жыхара вёскі

Чырвоны Багатыр пра тамтэйшы супрацьтанкавы роў, дзе ў гады вайны расстрэльвалі мірных гамельчукоў. Відэаздымкі выкарыстаў тэлеканал "Белсат" у сюжэце "Знойдзена новае месца, дзе было знішчана 25 тысяч ахвяраў Другой сусветнай вайны". Капітан міліцыі Гомельскага РАУС Валерый Стацэнка палічыў, што фрылансеры не мелі права запісваць інтэрв'ю, бо такім чынам нібыта выконвалі ролю карэспандэнта замежнага СМІ.

14 **снежня** ў судзе Першамайскага раёна Мінска былі разгледжаныя адміністрацыйныя справы 5 незалежных журналістаў паводле артыкула 22.9 КаАП – за «незаконны выраб прадукцыі СМІ». Усіх іх аштрафавалі за асвятленне дазволенай уладамі акцыі «Дзяды» для тэлеканала «Белсат». Сярод іх – **Вольга Чайчыц** (980 рублёў), **Сяргей Кавалёў** (980 рублёў), **Любоў Буянава (Лунёва)** (857,5 рубля і 980 рублёў), **Ірына Арахоўская** (980 рублёў), **Сяргей Краўчук** (980 рублёў).

19 **снежня** ў Мінску былі аштрафаваныя за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" журналісты **Сяргей Кавалёў, Любоў Буянава (Лунёва) і Андрэй Козел.** У той жа дзень у Глыбокім была разгледжана справа фрылансера **Змітра Лупача**. Усе яны атрымалі штрафы ў памеры 980 рублёў у адпаведнасці з арт. 22.9 КаАП.

22 **снежня** журналістка «Новага часу» **Дзіяна Серадзюк** была аштрафаваная на 250 рублёў (101 еўра) у судзе Цэнтральнага раёна г. Мінска па арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за "ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве». 26 лістапада 2018 г. каля дзясяці мінчан пакінулі папяровыя карабельчыкі перад будынкам амбасады Расіі ў Мінску як знак падтрымкі арыштаваных украінскіх маракоў пасля інцыдэнту ў Керчанскай затоцы. Пазней міліцыя склала пратакол у адносінах да Серадзюк, па нейкай прычыне палічыўшы яе ўдзельніцай мерапрыемства, хоць яна толькі авятляла тое, што адбывалася, і яе рэпартаж быў апублікаваны. Журналістцы быў прызначаны штраф, нягледзячы на тое, што яна патлумачыла, што была на мерапрыемстве па заданні рэдакцыі, мела адмысловы бэйдж, і галоўная рэдактарка «Новага часу» Аксана Колб сведчыла пра гэта перад судом.

24 **снежня** суддзя Глыбоцкага раённага суда Віцебскай вобласці аштрафавала журналіста-фрылансера Змітра Лупача на 612,5 рубля (каля 250 еўра) за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі. Падставай стаў сюжэт пра ўшанаванне памяці ахвяр нацыстаў і камуністаў на Глыбоччыне.

## Вобшукі, выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі і носьбітаў інфармацыі

23 **студзеня** Першамайскі раённы суд Мінска пастанавіў канфіскаваць абсталяванне, забранае з офіса тэлеканала "Белсат" у Мінску падчас вобшуку ў сакавіку 2017 г. (два сістэмныя блокі, два маніторы, два дыскі, ноўтбук і відэакамера). Акрамя таго, суддзя Анастасія Папко наклала штраф у памеры 980 рублёў (405 еўра) на аператара **Алеся Любянчука** за незаконнае выкарыстанне таварнага знака «Белсат». Аператару ўдалося атрымаць назад толькі свае асабістыя рэчы – камеру Go Pro і фотаапарат, якія таксама былі забраныя падчас вобшуку. Супрацоўнікам праваахоўных органаў не ўдалося даказаць, што Любянчук выкарыстоўваў іх, працуючы для "Белсата".

> *Справа з-за таварнага знака «Белсат» доўжылася амаль пяць гадоў, і, верагодна, была ініцыяваная ўладамі. На думку ўладальніка кампаніі «BELSATplus", тэлеканал Белсат шкодзіць інтарэсам яго кампаніі і ён спрабаваў забараніць каналу выкарыстанне гандлёвай маркі «Белсат». Вярхоўны суд Беларусі адмовіў у задавальненні гэтых патрабаванняў. Але пазней, у 2015 г., Вярхоўны суд перагледзеў сваё рашэнне і заклікаў польскія ўлады забараніць тэлеканалу "Белсат"*

*выкарыстанне яго таварнага знака (польскі тэлеканал не падлягае беларускай юрысдыкцыі).*

8 **лютага** **Алесь Сіліч**, які супрацоўнічае з тэлеканалам "Белсат", быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў Мінску за «незаконнае выкарыстанне таварнага знака "Белсат"». Суддзя Анастасія Папко прысудзіла яму 875,5 рублёў (356 еўра) штрафу і пастанавіла канфіскаваць камеру, мікрафон, сістэмны блок і два ноўтбукі, якія былі забраныя міліцыяй падчасператрусаў 31 сакавіка 2017 г. у мінскім офісе "Белсата".

19 **лютага** кватэру **Дзяніса Дашкевіча** з Рагачова, рэдактара мясцовага сайта навінаў *vrogacheve.ru*, абшукалі супрацоўнікі міліцыі. Калі міліцыя праводзіла ператрус, толькі жонка і дзеці журналіста былі дома. Па некаторых дадзеных, супрацоўнікі міліцыі шукалі кампутар, але не знайшлі яго.

*У студзені 2018 г. vrogacheve.ru апублікаваў паведамленне, у якім сцвярджалася, што мясцовы жыхар быў збіты міліцыяй падчас допыту. У ім было падрабязна апісана, як супрацоўнікі міліцыі зламалі рабро жыхару Рагачова Віктару Арцюху падчас яго затрымання. Неўзабаве пасля публікацыі гэтага Дзяніс Дашкевіч быў выкліканы ў міліцыю і апытаны, хто распавёў яму пра тое, што здарылася. Праз некалькі дзён пасля таго, як у яго кватэры быў праведзены ператрус, Дашкевіч сказаў, што міліцыя, верагодна, шукала відэа гэтага збіцця.*

22 **лютага** мінская міліцыя абшукала кватэру папулярнага беларускага відэа-блогера **Сцяпана Святлова**, які падазраваўся ў абразе прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. 19-гадовы Сцяпан Святлоў з'яўляецца аўтарам блога аб сацыяльна-палітычным жыцці ў Беларусі на Youtube-канале NEXTA, які мае больш за 100 000 падпісчыкаў. Амаль кожны матэрыял у яго блогу ўтрымлівае крытыку Лукашэнкі. На момант вобшуку ён знаходзіўся за мяжой, з'яўляючыся студэнтам аднаго з універсітэтаў Польшчы. У кватэры была толькі маці Святлова. Два супрацоўнікі міліцыі прадставілі ордэр на вобшук і сказалі, што нейкая жанчына падала заяву ў міліцыю пра абразлівыя выказванні ў адрас прэзідэнта, апублікаваныя на Youtube- канале блогера. Яны забралі ноўтбук і відэакамеру. 13 **лістапада** Святлову афіцыйна паведамілі, што праверка ў адносінах да яго скончаная і ён можа забраць вынятыя рэчы.

25 **сакавіка**, у дзень святкавання 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (даты, якая традыцыйна адзначаецца дэмакратычнымі сіламі Беларусі як Дзень Волі), на пляцоўцы, дзе адбываўся санкцыянаваны ўладамі святочны канцэрт, зніклі каля 10 дронаў, пры дапамозе якіх вялася відэатрансляцыя. Іх уладальнікі, у тым ліку прадстаўнікі СМІ, палічылі, што знікненне звязанае з дзеяннямі праваахоўных органаў. Міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч паведаміў журналістам, што не ведае, што адбылося з дронамі. Сярод СМІ, што страцілі свае дроны ў першыя хвіліны здымкаў, былі тэлеканал "Белсат" і інтэрнэт-партал TUT.by. Арганізатары канцэрта распавялі яшчэ пра некалькі прыватных дронаў, якія таксама зніклі без вестак.

12 **мая** міліцыя ў Брэсце правяла ператрус у кватэры вядомага відэаблогера **Сяргея Пятрухіна**. Пятрухіна сустрэлі некалькі супрацоўнікаў міліцыі і АМАП, калі ён выйшаў, каб выкінуць смецце. Яны прадставілі ордэр на вобшук, падпісаны пракурорам. Заява аб абразе і паклёпе ад імя супрацоўніка міліцыі Сяргея Ігнацюка была згаданая ў ім у якасці прычыны для вобшуку (Ігнацюк сцвярджаў, што блогер абразіў яго ў жывым эфіры на канале "Народны рэпарцёр" у сакавіку). Міліцыя забрала ноўтбук, планшэт, тэлефон і фотаапарат. Пятрухін палічыў гэта пераследам, звязаным з асвятленнем пратэстаў супраць будаўніцтва акумулятарнага завода пад Брэстам у яго блогу "Народный репортер". 28 **верасня** міліцыя вярнула Сяргею Пятрухіну вынятую тэхніку.

14 **чэрвеня** ў мінскай кватэры **Алеся Ліпая**, сузаснавальніка і дырэктара інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, быў праведзены ператрус. Ён працягваўся больш за шэсць гадзін. Супрацоўнікі міліцыі прад'явілі ордэр, падпісаны пракурорам і патлумачылі, што вобшук будзе праводзіцца ў сувязі з расследваннем крымінальнай справы Дэпартаментам фінансавых расследванняў Камітэта

дзяржаўнага кантролю *(гл. падрабязней "Крымінальныя справы").* 27 **ліпеня** Алесю Ліпаю вярнулі вынятую тэхніку, сярод якой быў сістэмны блок кампутара.

23 **ліпеня** ў Гродне міліцыя правяла ператрусы ў мясцовых журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат", **Аляксандра Дзянісава і Аляксея Кайрыса,** пасля іх затрымання *(гл. падрабязней у "Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед").* Ператрусы прайшлі ў іх кватэрах, а таксама ў доме маці Дзянісава. Міліцыянты забралі ў Кайрыса тры кампутары, тэлефон і жорсткі дыск, у Дзянісава – відэакамеру, тэлефон і іншае абсталяванне. 23 **лістапада** абодвум журналістам вярнулі забраную кампутарную тэхніку і іншыя асабістыя рэчы. Крымінальная справа, якая пагражала журналістам, не была распачатая.

7–9 **жніўня** ў рэдакцыях інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, інтэрнэт-парталаў TUT.BY і realt.by, некаторых іншых СМІ, а таксама ў кватэрах шэрагу іх супрацоўнікаў прайшлі вобшукі, падчас якіх былі канфіскаваныя прафесійная тэхніка і носьбіты інфармацыі. Вобшукі былі звязаныя з крымінальнай справай, распачатай за незаконны доступ да платнай падпіскі на навіновую стужку дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА *(гл. падрабязней "Крымінальныя справы").*

Вобшукі прайшлі ў наступных журналістаў:

1. **Таццяна Каравянкова** (БелаПАН), у тым ліку ў доме яе маці ў Гродзенскай вобласці;
2. **Марына Золатава** (Tut.by);
3. **Ганна Калтыгіна** (Tut.by);
4. **Галіна Уласік** (Tut.by);
5. **Ганна Ярмачонак** (Tut.by);
6. **Аляксей Жукаў** ("Белорусы и рынок");
7. **Паўлюк Быкоўскі** (пазаштатны аўтар Deutsche Welle);
8. **Ірына Леўшына** (БелаПАН);
9. **Дзмітрый Бобрык** (Tut.by)

і яшчэ як мінімум у двух журналістаў, якія не пажадалі апублічваць гэтую інфармацыю.

8 **жніўня** сааўтара папулярнага блога на You-Tube "Народны рэпарцёр" **Аляксандра Кабанава** выклікалі ў Бярозаўскі РАУС Брэсцкай вобласці, пасля чаго быў праведзены агляд кватэры ў Бярозе, дзе жыве блогер, а таксама ў ягонай хаце ў вёсцы Сошніца і бацькоўскім доме. Супрацоўнікі міліцыі праінфармавалі Кабанава, што агляд робіцца ў межах распачатай праверкі наконт заявы брэсцкага міліцыянта Рабушкі аб абразе яго ў адной з публікацый у блогу "Народны рэпарцёр".

*Раней, 27 ліпеня, па гэтай заяве ў Брэсце распачалі крымінальную справу ў дачыненні да калегі Кабанава – блогера Сяргея Пятрухіна, у якога быў праведзены вобшук.*

30 **жніўня** амапаўцы ўварваліся і абшукалі кватэру, якая належыць брэсцкаму блогеру **Сяргею Пятрухіну**. Ён праводзіў прамую трансляцыю таго, што адбываецца і паспеў сказаць, што міліцыя спрабуе ўвайсці да яго. З'явіўся супрацоўнік АМАП, выбіў тэлефон і крыкнуў: «Кладзіся! На падлогу! Хутка! Тварам уніз! Рукі за спіну!» Пасля таго як вобшук скончыўся, Пятрухін у кайданках быў дастаўлены ў РУУС Ленінскага раёна Брэста. Прыкладна ў дзве гадзіны дня ён быў вызвалены.

У ліпені ў адносінах да Пятрухіна была ўзбуджаная крымінальная справа па абвінавачванні ў абразе і паклёпе на супрацоўніка міліцыі (гл. Падрабязней "Крымінальныя справы").

## Папярэджанні Міністэрства інфармацыі

Па звестках Міністэрства інфармацыі цягам 2018 г. яно вынесла 6 пісьмовых папярэджанняў (4 – сродкам масавай інфармацыі і 3 – інфармацыйным інтэрнет-рэсурсам; адно з гэтых папярэджанняў тычылася і СМІ, і яго сайта).

24 **ліпеня** рэдакцыя недзяржаўнай газеты "Борисовские новости" атрымала ліст з Міністэрства інфармацыі з просьбай даць тлумачэнні адносна шэрагу публікацый на старонках выдання. У прыватнасці, паведамлялася, што на **"Борисовские новости"** паскардзіўся старшыня Барысаўскага райвыканкама Генадзь Дзенгалёў. Чыноўнік даводзіў, што газета парушыла заканадаўства. Пералік "парушэнняў" складаўся з чатырох эпізодаў. Першы з іх тычыўся апублікаванага ў газеце артыкула **"Праздник Великой Победы с горчинкой"**. Быццам, у ім была надрукаваная недакладная інфармацыя, што Барысаўскі райвыканкам забараніў пахаванне і ўсталяванне помніка. Другі факт тычыўся выкарыстання ў матэрыяле "Новые руководители в городе" інфармацыі і фотаздымка, узятых з сайта ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама без спасылкі. У гэтым жа артыкуле быў надрукаваны фотаздымак наноў прызначанай намесніцы старшыні выканкама Настассі Копікавай, "якая не давала сваёй згоды на размяшчэнне фотаздымка і ў адкрытых крыніцах гэтага здымка няма". Апошні факт "парушэнняў", выяўлены ў тым жа артыкуле, тычыўся зыходу з пасады начальніка аддзела ідэалагічнай працы Людмілы Гарнак з чэрвеня 2018 г. Барысаўскі райвыканкам палічыў, што гэтая інфармацыя была заснаваная на чутках, што супярэчыць арт. 4 Закона аб СМІ. Галоўны рэдактар "Борисовских новостей" **Анатоль Букас** у адказе Міністэрству інфармацыі аспрэчыў факты парушэнняў заканадаўства аб СМІ з боку рэдакцыі. Ён адзначыў, што інфармацыя аб прапанаваным ветэрану Вялікай Айчыннай вайны А. Юшко месцы пахавання ўзятая з афіцыйнага адказу Барысаўскага райвыканкама і адпавядае яго зместу. Па факце выкарыстання інфармацыі і фотаздымка з сайта УУС Мінаблвыканкама Анатоль Букас патлумачыў, што сайт дзяржаўнага органа не з'яўляецца СМІ, а інфармацыя пра дзейнасць дзяржаўных органаў павінна быць агульнадаступнай, распаўсюд і прадстаўленне якой не абмежаваны. Фотаздымкі Настассі Копікавай захаваліся ў рэдакцыі газеты з тых часоў, калі яна працавала ўрачом і пра яе працу "Борисовские новости" падрыхтавалі публікацыю. Што тычыцца зыходу з пасады начальніка аддзела ідэалагічнай працы, то гэтая інфармацыя адпавядае рэчаіснасці.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

9 **студзеня,** на падставе пісьмовых апавяшчэнняў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь, Міністэрства інфармацыі прыняло рашэнне аб абмежаванні доступу да 22-х інтэрнэт-рэсурсаў. Да сайтаў saitdeneg.com, dengi777.xyz, vdolgdengi.xyz, v-dolg555.com, dengivdolg.info, dengi-vruki.com, zaem24.net, credit-bel.com, dengi24na7.xyz, prosto-dengi.com, money-online.by, denezhka.net, obzor.lt, dengi-v-karmane.com, dengi24h.com, bn-rb.com, dengi-v-dolg.net, dengidolg.com, dengivdolg.org, dengi24na7 .net, zaim24na7.com, про-деньги.бел доступ быў абмежаваны за размяшчэнне рэкламы аб прадастаўленні мікрапазык неабмежаванаму колу асоб суб'ектамі гаспадарання, якія не ўключаныя ў рэестр мікрафінансавых арганізацый.

24 **студзеня** Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь заблакавала доступ да папулярнага апазыцыйнага сайта charter97.org у сувязі з парушэннем закона аб СМІ. Міністэрства спаслалася на арт. 38 Закона аб сродках масавай інфармацыі, які тычыцца распаўсюду матэрыялаў, забароненых або абмежаваных да распаўсюду па закону або па рашэнні суда, але не патлумачыла нічога канкрэтна.

26 **сакавіка** Міністэрства інфармацыі Беларусі абмежавала доступ да 5 інтэрнэт-рэсурсаў, а таксама 12 груп і персанальных старонак «ВКонтакте» на падставе рашэнняў суда Цэнтральнага раёна Мінска за распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў.

17 **мая** Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да 22-х сайтаў. Падставай для гэтага сталі пісьмовыя апавяшчэнні Міністэрства ўнутраных спраў. На 21 сайце размяшчалася інфармацыя аб продажы наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў. Яшчэ на адным сайце размяшчалася рэклама наркатычных сродкаў. Сярод заблакаваных сайтаў апынуўся сайт грамадскай кампаніі **"Легалайз Беларусь"**, якая выступае за змены ў крымінальным кодэксе, у прыватнасці «наркатычных» артыкулаў 328 і 329. Стваральнік сайта **Пятро Маркелаў** атрымаў адпаведны ліст за подпісам міністра інфармацыі Аляксандра Карлюкевіча.

Згодна з пісьмовым паведамленнем МУС ад 8 мая, на гэтым сайце былі размешчаныя *«матэрыялы, якія прапагандуюць спажыванне небяспечнага наркатычнага сродку марыхуана, выкарыстанне якога на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь незаконна»*.

28 **мая** ў адпаведнасці з пісьмовымі паведамленнямі Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь Міністэрства інфармацыі прыняло рашэнне аб абмежаванні доступу да двух інтэрнэт-рэсурсаў (av.com.by і goabay.com) за размяшчэнне неналежнай рэкламы.

1 **чэрвеня** Міністэрства інфармацыі зачыніла доступ да 17 сайтаў на падставе пісьмовых апавяшчэнняў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю: праз гэтыя сайты незаконна выдаваліся мікразаймы. За размяшчэнне неналежнай рэкламы быў абмежаваны доступ да наступных інтэрнэт-рэсурсаў: alfazaem.win, dayu-dengi-v-dolg-minsk.com, dam-dengi.xyz, dam-deneg.casa, dengi-vdolg.info, financehelp.xyz, idengy.com, money-tyt.com, mymoney.by, zaem-v-minske.website, money-gold.win, vdolg24.xyz, get24h7.ru, alfacredit.win, zaimvdolg.com, zzzdengi.com, dengivdolg-vzaem.by.

7 **ліпеня** ў адпаведнасці з пісьмовым паведамленнем Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь Міністэрства інфармацыі прыняла рашэнне аб абмежаванні доступу да чатырох інтэрнэт-рэсурсаў (med-by.info, artrovex.info, normaten8.pokupkishops.ru, medicina-portal.com) з-за размяшчэнне неналежнай рэкламы лекавых сродкаў.

31 **ліпеня** на падставе пісьмовага паведамлення Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю рашэннем Міністэрства інфармацыі быў абмежаваны доступ да 16 інтэрнэт-рэсурсаў (dam-dengi-v-dolg-minsk.com, dam-vam.cash, zaimy.top, get7h24.ru, dengivdolg.site, dam-zaim.top, vot-vash.cash, credit-na-ryki.com, do-zarp.com, money-gold.loan, easymoney.by, dengi-kredit.tilda. ws, dam-vam-dengi.com, zaumi.by2.by, dengidam.by, в-доўг-деньги.бел], на якіх распаўсюджвалася рэклама аб прадастаўленні мікрапазык.

18-19 **кастрычніка** Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да 12 інтэрнэт-рэсурсаў за неналежную рэкламу. Акрамя таго, быў абмежаваны доступ да шасці старонак у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте» за распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў, прызнаных экстрэмісцкімі на падставе рашэння суда Кастрычніцкага раёна Віцебска.

14 **лістапада** на падставе пісьмовых апавяшчэнняў МУС Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да 37 інтэрнэт-рэсурсаў. На іх размяшчалася інфармацыя аб продажы наркотыкаў і псіхатропаў.

6 **снежня** Міністэрства інфармацыі Беларусі абмежавала доступ да 151 сайта, звязанага з продажам наркотыкаў.

13 **снежня,** у адпаведнасці з пісьмовым паведамленнем Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь, Міністэрства інфармацыі прыняло рашэнне аб абмежаванні доступу да 11

інтэрнэт-рэсурсаў за размяшчэнне неналежнай рэкламы аб прадастаўленні пазык неабмежаванаму колу асоб.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

8 **студзеня** баранавіцкая незалежная газета **"**Intex-press**"** накіравала запыт дэпутату Брэсцкага абласнога савета, гендырэктару ААТ "Баранавіцкае вытворчае баваўнянае аб'яднанне" Івану Турчаку. Дэпутат праігнараваў пытанні рэдакцыі пра яго працу на дэпутацкай пасадзе і на запыт не адказаў. 21 **лютага**, у адказ на скаргу "Intex-press" у пастаянную камісію па пытаннях законнасці і правапарадку, дэпутацкай этыкі, яе старшыня Канстанцін Шаршуновіч лістом паведаміў рэдакцыі, што *"з прычыны неналежнага выканання дэпутацкіх абавязкаў"* Турчаку растлумачана, што *"ў адпаведнасці з дзейсным заканадаўствам дэпутаты абавязаныя даваць адказы на звароты, якія паступілі ім, і ўказана на недапушчэнне падобных фактаў у далейшай дзейнасці".*

26 **студзеня** стала вядома, што дэпутат Брэсцкага абласнога савета дэпутатаў Вячаслаў Герасімовіч, начальнік Баранавіцкага ГАУС, не адказаў на пісьмовыя пытанні баранавіцкай незалежнай газеты "Intex-press**"** аб яго дзейнасці. Рэдакцыя задавала дэпутату каля 10 пытанняў. Напрыклад: Ці выступаў ён пры абмеркаванні бюджэту на 2018 год? Ці выказваў заўвагі з нагоды бюджэтных сродкаў Баранавічам? Ці ўдзельнічаў у размеркаванні бюджэтных сродкаў ад так званага «транспартнага падатку», якія прапановы ўносіў? Што яму як дэпутату не ўдалося вырашыць? і г.д. Аднак дэпутат праігнараваў пытанні незалежнага выдання і яго чытачоў – сваіх выбаршчыкаў. У лісце Герасімовіч паведаміў рэдакцыі, што адказы на пытанні можна знайсці ў газеце "Наш край" ад 22 снежня 2017 г., хаця адказаў на большасць пытанняў "Intex-press" там не было.

21 **лютага**, у адказ на скаргу "Intex-press" у пастаянную камісію па пытаннях законнасці і правапарадку, дэпутацкай этыцы, яе старшыня Канстанцін Шаршуновіч у лісце паведаміў рэдакцыі, што з прычыны неналежнага выканання дэпутацкіх абавязкаў Герасімовічу растлумачана, што *"ў адпаведнасці з дзейсным заканадаўствам дэпутаты абавязаныя даваць адказы на звароты, якія паступілі ім, і ўказана на недапушчэнне падобных фактаў у далейшай дзейнасці".*

2 **лютага** Брэсцкая гарадская выбарчая камісія адмовіла "Брестской газете" ў прадстаўленні графіка сустрэч з выбарцамі кандыдатаў у дэпутаты гарадскога Савета. Калі журналістка **Таццяна Гапеева** звярнулася з просьбай прадставіць гэты графік, старшыня камісіі Ірына Мокат спытала у журналісткі, навошта ён "Брэсцкай газеце". Пачуўшы, што выданне хоча апублікаваць графік, старшыня выбаркама адказала, што камісія не абавязаная прадстаўляць графік сустрэч кандыдатаў. Паводле слоў Ірыны Мокат, графік надрукуюць, а дзе – вырашыць камісія.

5 **лютага**, пасля некалькіх беспаспяховых спроб узяць інтэрв'ю, баранавіцкая незалежная газета **"**Intex-press**"** накіравала пісьмовы запыт новапрызначанай дырэктарцы баранавіцкай Дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы па хакеі і фігурным катанні Іне Тарасюк. Рэдакцыя газеты пыталася пра стан спраў у Лядовым палацы, а таксама цікавілася меркаваннем Іны Тарасюк па тых ці іншых праблемах, былі пытанні пра яе біяграфію і планы на будучыню. Адказ Тарасюк стаў новым словам у адказах службоўцаў на запыты рэдакцыі. У сваім лісце яна апавясціла, што "паводле п. 2 артыкула 22 заўв.1 Закона РБ ад 14 чэрвеня 2003 года №204-3 "Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь", прадастаўленне запытанай інфармацыі ажыццяўляецца па даручэнні ці з узгаднення кіраўніка дзяржаўнага органа, у якім дзяржаўны службовец займае дзяржаўную пасаду". На гэтай падставе дырэктарка дзіцячай спартыўнай школы прапанавала рэдакцыі "звярнуцца ў орган галіновага кіравання – аддзел адукацыі, спорту і турызму Баранавіцкага гарвыканкама". Тым часам, закон "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" не прадугледжвае падобнага варыянту адказу кіраўніка арганізацыі на запыт.

6 **лютага** баранавіцкая незалежная газета **"Intex-press"** накіравала запыт начальніцы Баранавіцкага аддзела гандлю і паслуг Таццяне Асос пра працу гарадскога гандлю ў 2017 г. Аднак чыноўніца адказала рэдакцыі, што гэта інфармацыя будзе апублікаваная на сайце Баранавіцкага гарвыканкама да 5 сакавіка 2018 г. Такі адказ з'яўляецца парушэннем Закона "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб". Закон дазваляе так адказаць, калі інфармацыя ўжо была апублікаваная ў афіцыйных друкаваных выданнях, іншых СМІ, у адкрытым доступе на афіцыйных сайтах дзяржаўных органаў і іншых дзяржаўных арганізацый і г. д., але гэта не тычыцца інфармацыі, якая калі-небудзь будзе там змешчана.

14 **лютага** Баранавіцкая гарадская выбарчая камісія не дала інфармацыі незалежнай газеце **"Intex-press"** пра колькасць выбарцаў, што ўзялі ўдзел у датэрміновым галасаванні на выбарах у мясцовыя саветы ў Баранавічах. Старшыня камісіі Таццяна Латышава і сакратар Святлана Касач адказалі карэспандэнтцы "Intex-press" **Алене Зелянко**, што ў іх такіх дадзеных няма. На наступны дзень яны сказалі тое самае. Аднак у Брэсцкай абласной выбарчай камісіі рэдакцыі пацвердзілі, што лічбы па горадзе ім падае Баранавіцкая гарадская выбарчая камісія.

18 **лютага** карэспандэнтка тэлеканала «Белсат» **Вольга Чайчыц** і аператар **Андрусь Козел** прыехалі ў Фаніпаль на выбарчы ўчастак №31, каб асвятляць галасаванне, але старшыня выбарчай камісіі Аляксандр Ганчар намагаўся забараніць ім весці здымкі. Акрамя вуснай забароны, ён паспрабаваў адабраць мабільны тэлефон у Вольгі Чайчыц. Журналісты пачалі даводзіць старшыні камісіі, што паводле заканадаўства маюць права здымаць відэа і фатаграфаваць усё, што адбываецца на выбарчым участку. У сваю чаргу, Ганчар сказаў, што рабіць гэта можна толькі «з дазволу старшыні» і папрасіў Чайчыц і Козела «пакінуць участак».

Як распавяла наша калега, прысутныя назіральнікі зрабілі Ганчару заўвагу, аднак каментаваць сітуацыю адмовіліся. Пасля доўгага тлумачэння журналістамі сваіх правоў, ім усё ж дазволілі здымкі.

1 **мая** сябры ультра-патрыятычнага расійскага байк-клуба "Начныя ваўкі" не дазволілі двум журналістам тэлеканала **"Белсат"** прысутнічаць на прэс-канферэнцыі ў консульстве Расійскай Федэрацыі ў Брэсце. Прэс-канферэнцыя праводзілася з нагоды прыбыцця "Начных ваўкоў" у Брэст у межах штогадовага мотапрабега "Дарогі вайны", які паўтарае рух Чырвонай Арміі ў Другой сусветнай вайне на шляху ў Берлін. У час, калі сябры клуба на чале з іх лідэрам Аляксандрам Залдастанавым пад'ехалі да будынка консульства, прадстаўнікі мінскага аддзялення "Начных ваўкоў" перашкаджалі працы журналістаў "Белсата". Яны не дазволілі ім здымаць і блакавалі іх доступ да будынка.

4 **мая** было зацверджана «Палажэнне аб парадку ўзаемадзеяння са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце», якое фактычна забараніла яго супрацоўнікам даваць інфармацыю СМІ без дазволу рэктара. У прыватнасці, пункт 4 Палажэння абавязвае: «Усе вусныя і пісьмовыя запыты СМІ, звернутыя да службовых асоб (супрацоўнікаў) і/або падраздзяленняў БДУ, павінны накіроўвацца ў прэс-службу. Прэс-служба пасля ўзгаднення з рэктарам, пры неабходнасці з прарэктарамі, кіраўнікамі падраздзяленняў БДУ, дэканамі прымае рашэнне аб мэтазгоднасці правядзення запытанага інтэрв'ю, каментара, прысутнасці СМІ на якім-небудзь мерапрыемстве БДУ, а таксама аб удзеле службовых асоб (супрацоўнікаў) БДУ ў радыё- і тэлеперадачах, прэс-канферэнцыях, круглых сталах, арганізаваных сродкамі масавай інфармацыі».

23 **мая** карэспандэнтку "Газеты Слонімскай" **Ганну Валадашчук** не пусцілі ў Слонімскі выканкам Гродзенскай вобласці, дзе вёў прыём грамадзянаў міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Леанід Заяц. Супрацоўніца аховы спыніла журналістку і заявіла ёй, што нельга праходзіць з фота- і радыётэхнікай. У адказ на настойлівыя просьбы журналісткі прайсці ахова выклікала начальніцу аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Наталлю Юнчыц, якая папрасіла Ганну Валадашчук пачакаць, а калі вярнулася, то сказала, што прыём ужо ідзе, на ім ёсць журналісты і заходзіць цяпер будзе няёмка.

Потым чыноўніца заявіла журналістцы, што можа прапусціць яе да міністра, але толькі як прыватную асобу.

15 **чэрвеня** карэспандэнтку "Газеты Слонімскай" **Таццяну Плахетка** (Дзенісюк) не прапускалі ў райвыканкам з фотаапаратам, хоць ішла яна туды не па журналісцкім заданні, а каб забраць у аддзеле адукацыі пуцёўку для дачкі.

Фотаапарат – свой працоўны інструмент – яна паклала ў сумку, каб не выклікаў пытанняў у аховы. Аднак ахоўніца-міліцыянер папрасіла паказаць змесціва сумкі і заявіла, што ў іх ёсць распараджэнне не прапускаць у будынак наведвальнікаў з фота-, відэа- і радыётэхнікай. Толькі калі начальніца аддзела адукацыі, якая выпадкам праходзіла побач, папрасіла прапусціць журналістку пад сваю адказнасць, ахоўніца пагадзілася.

20 **чэрвеня** Міністэрства замежных спраў Беларусі дзевяты раз адмовіла гродзенскаму журналісту **Віктару Парфёненку** ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта замежнага СМІ – "Беларускага Радыё Рацыя" (Польшча). Гэтым разам Міністэрства замежных спраў выбрала новую фармулёўку для абгрунтавання адмовы. Яно спаслалася на пункт 15.4 Палажэння аб акрэдытацыі, дзе гаворыцца: *"На працягу шасці месяцаў адмаўляць замежнаму сродку масавай інфармацыі ў акрэдытацыі журналістаў у выпадку ўстанаўлення факта выкарыстання паслуг журналістаў і (або) іншых асоб, якія не маюць акрэдытацыі".*

Раней Парфёненка ўжо 8 разоў звяртаўся па акрэдытацыю ў МЗС Беларусі і кожны раз атрымліваў адмовы. Скарга журналіста на дзеянні ўладаў чакае разгляду ў Камітэце па правах чалавека ААН.

23 **жніўня** мясцовы чыноўнік у Слоніме Гродзенскай вобласці не дазволіў працаваць фрылансерам, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат" – **Вользе Чайчыц і Аляксандру Зянкову**, выклікаўшы міліцыю. У Слоніме меўся адбыцца сход мясцовых жыхароў, прысвечаны абмеркаванню аплаты сацыяльнага жытла. Журналісты прыехалі туды, каб яго асвятляць. Мясцовы чыноўнік Ігар Галенка папрасіў Чайчыц і Зянкова пакінуць сход, бо ў іх няма акрэдытацыі. Калі тыя адмовіліся, была выкліканая міліцыя. Супрацоўнікі міліцыі праверылі дакументы ў журналістаў і папрасілі іх пакінуць залю, аднак не назвалі законных падставаў для гэтага. Праз некаторы час Галенка абвясціў, што сход не адбыўся і пераносіцца на іншы дзень.

23 **верасня** кіроўца, чыя машына трапіла ў дарожна-транспартае здарэнне, не толькі імкнуўся перашкодзіць, каб месца аварыі фатаграфаваў журналіст газеты **"Ганцавіцкі час"**, які апынуўся побач, але і патрабаваў у яго кнігу заўваг і прапаноў. Гэта адбылося, калі аўтамабіль "Пежо" трапіў у аварыю каля вёскі Хатынічы. Уладальнік машыны не справіўся з кіраваннем, аўтамабіль занесла ў кювет, дзе ён перавярнуўся; ніхто не пацярпеў.

25 **верасня** вядомы блогер з Акцябрскага Гомельскай вобласці **Андрэй Павук** быў затрыманы міліцыяй, калі паспрабаваў наведаць сесію раённага савета дэпутатаў. Павуку сказалі, што яму нельга там знаходзіцца. Яго вывеў супрацоўнік міліцыі і даставіў у аддзяленне, нягледзячы на тое, што любая асоба мае права прысутнічаць на гэтых паседжаннях у адпаведнасці з законам. Блогер быў апытаны і адпушчаны.

11 **кастрычніка** журналісту незалежнага інфармагенцтва БелаПАН **Уладзіміру Лапцэвічу** адмовілі ў магчымасці прысутнічаць на V Форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі, які праходзіў у Магілёве. Раніцай 11 кастрычніка Лапцэвічу паведамілі ў Магілёўскім аблвыканкаме, што ён акрэдытаваны ў якасці карэспандэнта БелаПАН. Калі ж вечарам ён прыйшоў на адно з мерапрыемстваў у межах Форума, яго туды не прапусцілі. Прэс-сакратарка Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Вольга Казловіч сказала Лапцэвічу па тэлефоне, што яго не акрэдытавалі па рашэнні прэс-службы прэзідэнта. 10 **снежня** Лапцэвіч накіраваў у суд Ленінскага раёна Мінска зыск аб прызнанні таго, што дзеянні службовых асоб Савета Рэспублікі, якія адмовілі яму ў акрэдытацыі на паседжанне Міжпарламенцкай камісіі

Савета Рэспублікі і Савета Федэрацыі па міжрэгіянальным супрацоўніцтве падчас правядзення V Форума рэгіёнаў Беларусі і Расіі ў Магілёве, супярэчаць заканадаўству.

21 **кастрычніка**, у нядзелю, у Брэсце журналісты-фрылансеры **Яўген Скрабец, Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава** былі выкліканыя ў міліцыю па позвах і дапытаныя ў час, калі на цэнтральнай плошчы горада адбывалася адна з нядзельных акцыяў пратэсту супраць пабудовы акумулятарнага завода; узгаданыя журналісты рэгулярна асвятлялі гэтыя акцыі. Ляўчук і Харытонава былі апытаныя пра супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат". Скрабцу паведамілі, што ў адносінах да яго праводзіцца праверка ў сувязі з работай на Радыё Рацыя без акрэдытацыі.

26 **кастрычніка** журналістку недзяржаўнай баранавіцкай газеты "Intex-press" **Алену Зелянко** не пусцілі на мясцовы станкабудаўнічы завод "Атлант", які наведваў старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ Міхаіл Мясніковіч. Гарадскія ўлады спачатку дазволілі журналістцы прысутнічаць на сустрэчы з Мясніковічам, аднак затым перадумалі. Начальніца аддзела ідэалагічнай працы і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама Вольга Дудко раніцай 26 кастрычніка паведаміла галоўнаму рэдактару газеты, што журналістаў "Intex-press" у спісе запрошаных няма. У той жа час прадстаўнікі дзяржаўных СМІ – раённай газеты, мясцовага радыё і тэлебачання – на сустрэчы з чыноўнікам са сталіцы прысутнічалі.

20 **лістапада** журналісту інтэрнэт-газеты **"Бобруйский курьер"**, які прыйшоў у выканкам за інфармацыяй для матэрыялу, забаранілі там фатаграфаваць. На ўваходзе супрацоўнік міліцыі папрасіў яго прайсці праз рамку-металадэтэктар. Міліцыянт патлумачыў, што ўсталявалі рамку "ў сувязі з нядаўнімі падзеямі". Шукаць усю інфармацыю пра гэтае рашэнне ён адправіў у дэпартамент аховы, дзе, у сваю чаргу, сказалі, што не маюць права адказваць на такія пытанні. Калі журналіст хацеў сфатаграфаваць рамку, супрацоўнік міліцыі сказаў, што гэта забаронена, і што ўвогуле нельга здымаць у выканкаме. Ён спаслаўся на загад, але паказаць яго ў пісьмовым выглядзе не змог. Кіраўніца справамі выканкама Людміла Пагуда на пытанне пра забарону фатаграфаваць адказала пытаннем: *"А навошта вам здымаць? Вам мала ў горадзе месцаў для фотаздымкаў? Навошта здымаць супрацоўніка міліцыі ці нашых супрацоўнікаў? Яны што – не людзі? А можа яны не хочуць, каб іх фатаграфавалі? Ідзіце і фатаграфуйце дамы, кветкі".*

24 **снежня** ў судзе Глыбоцкага раёна разглядалася адміністрацыйная справа журналіста-фрылансера Зміцера Лупача, узбуджаная за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі. Незалежныя журналісты, у ліку якіх была **Таццяна Смоткіна**, прыйшлі падтрымаць свайго калегу, аднак міліцыянты доўга правяралі іх рэчы і адмаўляліся пусціць іх у пакой, дзе слухалася справа Лупача. Зміцер Лупач расказаў, што калі ў залю суда заходзілі міліцыянт і сакратар сказаць, што ёсць людзі, якія хочуць прысутнічаць на працэсе, суддзя Людміла Вашчанка крычала на іх. Толькі пасля слоў сакратара пра званок са Следчага камітэта яна пагадзілася пусціць журналістаў.

28 **снежня** рэдактара сайта незалежнай газеты "Ганцавіцкі час" **Сяргея Багрова** не пусцілі ў будынак райвыканкама. Прадстаўнікі Ганцавіцкага раённага аддзела міліцыі запрасілі прадстаўнікоў "Ганцавіцкага часу" ў мясцовы райвыканкам на мерапрыемства, дзе меліся ўручацца падзякі і прэміі мясцовым жыхарам. Аднак на ўваходзе ў райвыканкам Багрова сустрэла кіруючая справамі Ганцавіцкага райвыканкама Наталля Маляўка і загадала ахоўніку не пускаць яго ў будынак.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў

**Уночы з 26 на 27 студзеня** невядомыя падпалілі аўтамабіль блогера **Яўгена Куляшова**, прыпаркаваны на вуліцы Чкалава ў Віцебску. Блогер, які выкрывае парушэнні на віцебскіх станцыях тэхнічнага абслугоўвання (СТА), адразу заявіў, што не выключае матыў помсты за выкрывальныя

відэаролікі. Ён распачаў праект «Как нас разводят на СТО» ў 2016 г. і публікаваў ролікі пра заўважаныя парушэнні на двух каналах на Youtube (адзін мае 137 тысяч падпісчыкаў, другі – 10 тысяч). Віцебскім гарадскім аддзелам Следчага камітэту была заведзеная справа паводле часткі 2 артыкулу 218 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь — «Наўмыснае знішчэнне альбо пашкоджанне маёмасці, учыненае агульнанебяспечным спосабам».

21 **лютага** відэаблогер з Бярозы **Аляксандр Кабанаў** быў выкліканы ў мясцовую пракуратуру, дзе атрымаў афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння Закона "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", якое падпісаў пракурор Аляксандр Круцько. Нагодай для гэтага стала анлайн-трансляцыя з удзелам Сяргея Пятрухіна і яшчэ аднаго блогера – Аляксандра Кабанава, дзе яны агучылі свае планы выйсці 25 лютага на цэнтральную плошчу Брэста, калі мясцовыя ўлады не прымуць рашэнне аб спыненні будаўніцтва акумулятарнага завода, які пагражае экалагічнаму стану горада. Гэтая акцыя пратэсту не была дазволена ўладамі.

22 **лютага** брэсцкі відэаблогер **Сяргей Пятрухін** атрымаў афіцыйнае папярэджанне пракуратуры аб недапушчальнасці парушэння Закона "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", якое падпісаў пракурор Брэста Іван Чайчыц. Нагодай стала анлайн-трансляцыя з удзелам Сяргея Пятрухіна і Аляксандра Кабанава (*гл. вышэй*).

22 **лютага** невядомыя асобы пачалі ствараць "выкрывальніцкія" відэаролікі супраць папулярных відэаблогераў **Сяргея Пятрухіна і Аляксандра Кабанава** і публікаваць іх на адмысловым Youtube-канале "Антиблохер". Там не толькі крытыкуюць і абвяргаюць факты з сюжэтаў Пятрухіна і Кабанава. Больш увагі надаецца ім самім. Напрыклад, апавядаецца пра "няўжыўчывага ў калектыве і сям'і" "аматара алкагольных напояў" Сяргея Пятрухіна і пра прыхільніка "легалізацыі і вырошчвання ў Беларусі марыхуаны" Аляксандра Кабанава. Аўтары "расследванняў" "Антиблохера" ананімныя — твараў не бачна, галасы змененыя. Хто гэта робіць, дакладна не вядома. Пятрухін і Кабанаў упэўненыя, што прычынай з'яўлення "Антиблохера" сталі іх расследванні з нагоды будаўніцтва пад Брэстам акумулятарнага завода "АйПаўэр". Гэтая тэма закранаецца ў роліках "Антиблохера", дзе сцвярджаецца, што шкоднасць акумулятарнага завода Пятрухін і Кабанаў перабольшваюць, а то і падманваюць людзей наконт гэтага.

5 **сакавіка** блогера **Паўла Спірына**, аўтара дакументальнага фільма «Айчым» пра прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку, які на Youtube набраў больш за 450 тысяч праглядаў, дапыталі ў Ленінскім РУУС Мінска. Спірын распавёў, што ў яго ўзялі тлумачэнні з нагоды фільма і ўзялі ўзор голасу, каб можна было даказаць, што гэта яго фільм, хаця блогер сам пацвердзіў гэта. Міліцыянты паведамілі, што праводзіцца праверка і супраць яго можа быць узбуджана крымінальная справа за абразу прэзідэнта (арт. 368 Крымінальнага кодэксу).

4 **красавіка** ў газеце "Адзінства" — друкаваным органе Барысаўскага райвыканкама - быў апублікаваны артыкул "Мужик сказал, мужик… не сделал, или несколько слов о пустозвонстве". Аўтар публікацыі — галоўны рэдактар "Адзінства" Вера Пратасевіч – у зняважлівых выразах распавяла, як барысаўскі журналіст **Павел Сляпухін** хадзіў на прыём да старшыні райвыканкама Генадзя Дзенгалёва. 5 красавіка гэтая публікацыя з'явілася на сайце раённай газеты. Праз некалькі дзён Павел Сляпухін накіраваў у рэдакцыю "Адзінства" патрабаванне абвергнуць звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці, ганьбяць яго гонар і годнасць, а ў Міністэрства інфармацыі — скаргу з просьбай вынесці пісьмовае папярэджанне дзяржаўнай раённай газеце. Неўзабаве пад артыкулам пачалі з'яўляцца каментары за подпісам "Автор" і "Вера Н. Протасевич". Чалавек, які іх пісаў, перайшоў да адкрытых абразаў і пагрозаў. Тады журналіст патэлефанаваў у Мініінфарм. Спачатку ён меў размову з намеснікам, а затым і з міністрам інфармацыі Аляксандрам Карлюкевічам. У выніку спачатку каментары, а пасля і сам артыкул з сайта газеты "Адзінства" былі выдаленыя.

28 **мая** ў Інтэрнэце з'явіўся відэаролік, нібыта прысвечаны "выкрыццю фінансавання" тэлеканала "Белсат", а насамрэч поўны зняваг на адрас журналіста **Уладзіміра Лунёва**, які супрацоўнічаў з "Белсатам". У роліку таксама згадваліся імёны іншых журналістаў з Віцебшчыны – Алены Шабуні, Вячаслава Лазарава, Віталя Скрыля, Змітра Лупача, грамадскай актывісткі Таццяны Севярынец. Яшчэ адной "гераіняй" відэароліка стала відэаблогерка **Алена Янушкоўская**. Яна не мае дачынення да журналістыкі, але стварыла ўласны канал на Youtube.com і робіць відэаагляды пра жыццёвыя праблемы сваёй роднай вёскі і бліжэйшага наваколля. У той самы дзень Уладзімір Лунёў звярнуўся ў міліцыю з заявай, у якой прасіў супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС Віцебска знайсці асобу, што распаўсюдзіла **відэаролік**, і прыцягнуць да адказнасці паводле артыкулаў 9.3 і 9.2 КаАП РБ – за абразу і паклёп. Праз колькі дзён Лунёў атрымаў афіцыйны адказ. Там паведамлялася, што адміністрацыйную справу скасоўваюць, бо ў дзеяннях нявысветленай асобы не знойдзена складу правапарушэнняў, якія падпадаюць пад артыкулы 9.3 і 9.2 КаАП.

11 **чэрвеня** арганізатары Форума "Мінскі дыялог" запатрабавалі ад кіраўніцтва **тэлеканала "Белсат"** афіцыйных выбачэнняў у тэрмін да 25 чэрвеня "за неаб'ектыўнае і несумленнае асвятленне мерапрыемства" ў эфіры і на сайце "Белсата". У адваротным выпадку яны пагражалі, што спыняць любую супрацу з тэлеканалам "Белсат", а журналісты тэлеканала больш не атрымаюць акрэдытацыю ні на адно іх мерапрыемства. Пра гэта гаварылася ў афіцыйным **лісце** за подпісам кіраўніка экспертнай ініцыятывы "Мінскі дыялог" Яўгена Прэйгермана на імя кіраўніцы "Белсата" **Агнешкі Рамашэўскай-Гузы**. Гэты ліст быў адпраўлены на адрасы аднаго з супрацоўнікаў тэлеканала "Белсат" і Беларускай асацыяцыі журналістаў. 13 чэрвеня кіраўніца "Белсата" накіравала Прэйгерману свой адказ, у якім прапанавала яму выступіць на тэлеканале і выкласці сваю пазіцыю. Гэтай прапановай ён не скарыстаўся.

19 **чэрвеня** віцебскі распаўсюднік незалежнай прэсы **Барыс Хамайда** быў затрыманы супрацоўнікамі Чыгуначнага РАУС у цэнтры гораду, каля дома № 28 насупраць амфітэатру, дзе ён, як заўсёды, распаўсюджваў беларускія выданні і сымболіку. На яго склалі пратакол і сказалі чакаць позвы – ці ў суд, ці зноў у міліцыю. У пастарунку яму патлумачылі, што Віцебск рыхтуецца да фестываля «Славянскі базар», а таксама да Дня гораду, які прызначаны на бліжэйшыя выходныя. Таму праводзіцца «зачыстка» ад усяго непажаданага, што можа трапіць на вока гасцям абласнога цэнтра. Пратакол «на ўдакладненне» Хамайду прывезлі проста дахаты, і праз два тыдні ён быў асуджаны да штрафу. Грошы вылічваюць з ягонай пенсіі, якая складае каля 250 рублёў.

28 **чэрвеня** ўчастковы інспектар Віктар Карпянок апытаў блогера з Акцябрскага **Андрэя Павука** з нагоды заяваў намесніка старшыні райвыканкама Уладзіміра Елісеева і кіраўніцы справамі Валянціны Шлапаковай. Чыноўнікі сцвярджалі, што блогер абразіў іх гонар і зганьбіў пачуцці сям'і. У заяве Уладзімір Елісееў напісаў, што 9 чэрвеня, калі ў Акцябрскім на плошчы ладзіўся вечар выпускнікоў, Павук *"дэманстратыўна хадзіў, апрануты ў майку з нанясеннем фотаздымкаў, каляровы фотадрук з выявай мяне і Валянціны Шлапаковай, на якой знізу быў надпіс «Они любят тебя»"*. Павук патлумачыў, што фотаздымкі чыноўнікаў райвыканкама ён узяў з афіцыйнай мясцовай газеты «Чырвоны Кастрычнік», чыноўнікі – публічныя асобы і надпіс «Яны любяць цябе» паказвае кожнаму, што згаданыя асобы паважаюць і любяць мясцовых жыхароў. Участковы інспектар абмежаваўся апытаннем і не складаў адміністрацыйны пратакол.

13 **ліпеня** да журналістаў тэлеканала «Белсат» **Вольгі Чайчыц і Андруся Козела** завітала судовая выканаўца Аддзелу прымусовага выканання Дзяржынскага раёну Яна Васюк. Яна апісала тэлефон, аўтамабіль, забрала ўсе наяўныя грошы. Яна таксама папярэдзіла аб адказнасці за захоўванне апісаных рэчаў і аб тым, што калі журналісты не сплоцяць штрафы цягам двух тыдняў, гэтую маёмасць забяруць. Дом, у якім прапісаныя журналісты, належыць маці Козела – судовая выканаўца сказала, што трэба звяртацца ў сацслужбы: маўляў, як дзеці (Чайчыц і Козела) жывуць у сітуацыі, калі ў бацькоў няма маёмасці.

*На той момант ад пачатку 2018 г. беларускія суды наклалі на Вольгу Чайчыц і Андруся Козела агулам 12 штрафаў (амаль Br 9000). Прычына пераследу журналістаў – прафесійная дзейнасць. Усе справы былі заведзеныя паводле артыкулу 22.9 КаАП – за выраб або распаўсюд прадукцыі СМІ.*

31 **ліпеня** гомельскі журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** прыйшоў на вайсковыя зборы, як тое было прызначана яму гарадскім ваенкаматам на пачатку ліпеня. Аднак на месцы высветлілася, што датычна яго ніякіх рашэнняў не прымалася. Тады Жукоўскі выклікаў міліцыю, бо выявілася падтасоўка медычных даведак. У ваенкамат з 3-й гарадской клінічнай бальніцы прыйшла даведка, што ён здаровы, а ў паліклініку па месцы жыхарства паведамілі, што ў яго гепатыт. Жукоўскі напісаў заяву ў міліцыю, каб разабраліся з падтасоўкай: розныя даведкі былі падпісаныя адной і той жа асобаю. 43-гадовы фрылансер прыехаў у ваенкамат ў паласатай гулагаўскай робе і вёў адтуль стрым. Ён заявіў, што перакананы, што недарэчнасць з вайсковымі зборамі, звязаныя з імі працяглыя медычныя камісіі – гэты метады, якія ўжываюцца, каб перашкодзіць яго журналісцкай дзейнасці.

7 **жніўня** пасля трохгадзіннагаператрусу ў кватэры, звязанага з так званай "справай БелТА" (*гл. падрабязней у "Крымінальныя справы"*) журналіста і рэдактара **Дзмітрыя Бобрыка** адвезлі ў цэнтральны апарат Следчага камітэта, дзе трымалі да позняга вечара, пагражаючы яму, а таксама яго родным і блізкім. Журналісту паабяцалі раскрыць дэталі асабістага жыцця, калі ён адмовіцца ад супрацоўніцтва. У выніку гэтага ціску ён падпісаў паперу аб супрацоўніцтве. Аб гэтым Бобрык распавёў у сваім Facebook 25 верасня. Ён таксама паведаміў, што адразу зразумеў, што не стане супрацоўнічаць.

3 **верасня** брэсцкі блогер **Сяргей Пятрухін** быў затрыманы для прымусовага дастаўлення на псіхіятрычную экспертызу ў межах крымінальнай справы за паклёп і абразу (*гл. падрабязней у "Крымінальныя справы"*). Адбылося гэта раніцай, калі блогер ішоў з дому да прыпынку грамадскага транспарту і збіраўся ехаць да адваката.

Да блогера падыйшлі людзі ў цывільным і зачыталі пастанову, згодна з якой яму неабходна прайсці экспертызу. Пасля гэтага Пятрухіна адвезлі ў абласное ўпраўленне камітэта судовых экспертыз, дзе ён мусіў прайсці тэсты.

Паводле слоў Пятрухіна, ён ведаў, што следчы Андранік Хачатран прызначыў яму гэтую экспертызу ў межах крымінальнай справы, і збіраўся прыйсці да экспертаў ў вызначаны час, але супрацоўнікі міліцыі чамусьці вырашылі даставіць яго прымусова.

29 **верасня** непаўналетнюю дачку гродзенскага журналіста і музыкі **Алеся Дзянісава** па тэлефоне апытаў мужчына, які прадставіўся ўчастковым. Паводле аповеду журналіста, міліцыянт *«паводзіў сябе груба, бесцырымонна, спалохаў яе; размова з ім выклікала ў дачкі шок»*. Ён запытаўся ў дзяўчыны, дзе знаходзіцца бацька, і паведаміў, што ў дачыненні да яго завялі крымінальную справу за размяшчэнне інфармацыі ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте». Раней пра гэткую крымінальную справу Дзянісава ніхто не інфармаваў. Ён палічыў гэта ціскам на яго і ягоную сям'ю з мэтай перашкодзіць ягонай дзейнасці. 2 кастрычніка Дзянісаў напісаў скаргі ў абласную і гарадскую пракуратуры, а таксама ў раённы аддзел міліцыі з просьбай праверыць гэтыя факты і даць ацэнку дзеянням супрацоўніка міліцыі, які не назваў сябе падчас званка.

8 **кастрычніка** супрацоўнікі міліцыі пагражалі распачаць крымінальную справу ў адносінах да магілёўскага журналіста **Аляксандра Буракова (малодшага)** паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса РБ (незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі ці фонда альбо ўдзел у іх дзейнасці), бо ён з'яўляецца супрацоўнікам магілёўскага праваабарончага сайта mspring.online. Буракову патэлефанаваў лейтэнант міліцыі Павел Кот, які паведаміў, што праводзіцца праверка і прапанаваў прыйсці на гутарку ў Кастрычніцкі РАУС Магілёва. Журналіст адмовіўся ісці ў РАУС, пакуль не будзе дасланая афіцыйная позва, але пагадзіўся сустрэцца у горадзе. Падчас сустрэчы Павел Кот прапанаваў Буракову даць тлумачэнні ў сувязі з правядзеннем праверкі

па "факце дзейнасці незарэгістраванай арганізацыі ПЦ "Вясна"". Супрацоўнікі праваахоўных органаў узялі тлумачэнні ў некалькіх чалавек, з якімі Буракоў сустракаўся ў якасці журналіста mspring.online, і на падставе гэтага нібыта пацвердзілі яго дачыненне да дзейнайсці правабарончага цэнтра "Вясна". Лейтэнант Кот склаў пратакол апытання, аднак Аляксандр Буракоў адмовіўся яго падпісваць. Напрыканцы сустрэчы міліцыянт настойліва "параіў" Буракову спыніць сваю дзейнасць і больш не супрацоўнічаць с ПЦ "Вясна". Арт. 193-1 Крымінальнага кодэкса прадугледжвала адказнасць у выглядзе штрафу, або арышту на тэрмін да шасці месяцаў, або пазбаўлення волі на тэрмін да двух гадоў. 11 снежня начальнік Кастрычніцкага РАУС Магілёва палкоўнік міліцыі Аляксандр Сільвановіч у сваім лісце паведаміў Аляксандру Буракову (малодшаму), што праверка ў межах крымінальна-працэсуальнага кодэкса ў дачыненні да яго прыпыненая. Журналіст атрымаў гэты ліст у адказ на сваю заяву, дзе прасіў паведаміць, да якой даты будзе працягнутая распачатая ў дачыненні да яго праверка.

*Арт. 193-1 Крымінальнага кодэкса быў скасаваны ў 2018 г.; адказнасць за ўдзел у дзейнасці незарэгістраваных арганізацый перанесеная ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях.*

29 **кастрычніка** невядомы мужчына некалькі разоў прыходзіў дадому да гомельскага блогера **Арцёма Шапарава**, пакуль той быў на судовым паседжанні па зыску дырэктаркі школы Ніны Старажэнка (*гл. падрабязней у "Іншыя судовыя справы"*). Ён патэлефанаваў у дзверы і, пасля таго, як пачуў ад 10-гадовай дачкі Шапарава, што таты няма дома, пачаў настойваць, каб тая адчыніла дзверы – ён пачакае тату. Дзяўчынка, нягледзячы на ўгаворы, адмовілася, але дала нумар тэлефона бацькі. Пасля гэтага пачаліся званкі. На аўдыёзапісах, якія былі апублікаваныя блогерам на відэаканале «Общество Гомель», чуваць, як мужчынскі голас у першым выпадку коратка просіць Арцёма «запомніць», што «ў вашым пад'ездзе будзе пахаванне». У другім выпадку мужчына абвальваецца на Шапарава з патокам абвяржэнняў яго інфармацыйнай дзейнасці, даказваючы, што «не ўсе чыноўнікі дрэнныя, не ўсе такое дзярмо, як ты паказваеш» і заяўляючы, што той «можна нарвацца» на тых, хто скарыстае сілу "не да цябе, дык да тваіх блізкіх». У гэтай жа размове ён патрабаваў, каб блогер закрыў свой відэаканал.

17 **лістапада** журналіста-фрылансера з Гомеля **Кастуся Жукоўскага** чарговы раз выклікалі ў гарадскі ваенкамат на медыцынскую камісію, каб прызваць на вайсковыя зборы. Папярэдняя камісія, якая праводзілася ўлетку, прызнала 44-гадовага Жукоўскага прыдатным да вайсковай службы з невялікімі абмежаваннямі. Гомельскі гарваенкамат прызначаў нават дату адпраўкі яго на зборы – 31 ліпеня, аднак у вызначаны дзень адпраўкі не адбылося (*гл. вышэй*). Кастусь Жукоўскі звярнуўся з адкрытым лістом на імя ваеннага камісара Гомеля Аляксандра Савянка, у якім заявіў, што не адмаўляўся па позве з'явіцца на вайсковыя зборы і прасіў пісьмова патлумачыць прычыны, паводле якіх улетку яго не адправілі на зборы, а цяпер выклікаюць у ваенкамат на паўторную медкамісію.

2 **лістапада**, пасля таго як суд Ленінскага раёна Брэста ў чарговы раз аштрафаваў незалежных журналістаў **Алеся Ляўчука** і **Мілану Харытонаву**, яны расказалі, што ўпэўненыя ў тым, што сілавыя структуры выкарыстоўваюць супраць іх шматлікія механізмы ціску. *«Міліцыя сочыць за намі фізічна. Яны з'яўляюцца ў нашым двары і пад'ездзе, у месцах, дзе мы працуем. Яны нават каля школы, дзе вучыцца нашая дачка, **зладзілі засаду.** Супраць нас разгарнулі паўнавартаснае электроннае сачэнне, аператар МТС па запыце міліцыі перадае ім звесткі, з дапамогай якіх міліцыя сочыць за нашым перамяшчэннем. Вялікая колькасць людзей, бачных і нябачных, ужо два месяцы працуе над пераследам журналістаў»,* – паведаміў Ляўчук. Журналісты засяродзілі ўвагу на тым, што стала вельмі цяжка жыць і працаваць у такіх умовах і што ніколі не было такога ціску на журналістаў у Брэсце раней.

22 **лістапада** да спецыяліста рэкламнага аддзела тэлеканала «Белсат» **Алеся Марчанкі** тэлефанавалі і прыходзілі дахаты людзі, якія прадстаўляліся супрацоўнікамі КДБ і гаварылі, што хочуць з ім «паразмаўляць» неафіцыйна.

Марчанка распавёў, што гэтыя людзі яго настойліва шукалі. Спачатку тэлефанавалі і прапаноўвалі паразмаўляць. Пасля таго, як ён папрасіў даслаць афіцыйны выклік, яму сказалі: «Не хочаце па-харошаму – будзе па-дрэннаму». Пакуль Марчанка адсутнічаў, да яго дадому прыязджалі два чалавекі ў цывільным і паказвалі яго жонцы чырвоныя пасведчанні. Яны не пакінулі ніякай павесткі і з'ехалі. На думку Марчанкі, найбольш імаверная прычына візіту звязаная з яго нядаўняй службовай паездкай ў Магілёў разам з намеснікам дырэктара канала Аляксеем Дзікавіцкім.

27 **лістапада** журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** на свой адрас электроннай пошты атрымаў пагрозы ад невядомага аўтара. У паведамленні гаварылася, што ён павінен быць асцярожным, бо патрапіць або ў войска, або ў турму.

Ліст з пагрозамі даслалі таксама праваабаронцу **Леаніду Судаленку**, які дапамагаў Жукоўскаму ў пытаннях юрыдычнай абароны ў звязку з перасьледам за журналісцкую дзейнасць і прызывам на вайсковыя зборы. 18 снежня стала вядома, што гомельская міліцыя не знайшла асобаў, якія дасылалі гэтыя пагрозы. Першы намеснік начальніка Чыгуначнага РАУС Гомеля Міхаіл Прывалаў у лісце на імя Судаленкі паведаміў, што быў выяўлены толькі *"інтэрнэт-рэсурс www.guerrillamail.com/ru, зарэгістраваны ў Канадзе, выкарыстоўваючы які любы карыстальнік сеткі Інтэрнэт мае магчымасць адпраўляць электронныя лісты з часовай электроннай паштовай скрыні"*.

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў СФЕРЫ СМІ

5 **лютага** галоўны рэдактар незалежнай газеты **"Борисовские новости" Анатоль Букас** атрымаў адказ на сваю скаргу ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на дзеянні Барысаўскага раённага выканаўчага камітэта, які перашкаджаў заключаць дамовы на распаўсюд выдання праз гандлёвыя аб'екты. Першы намеснік міністра **Ігар Луцкі** паведаміў, што Барысаўскі райвыканкам з'яўляецца самастойнай юрыдычнай асобай, якая не падпарадкоўваецца Міністэрству інфармацыі – *"у гэтай сувязі Мінінфарм не правамоцны прымаць меры рэагавання"* да яго работнікаў. Па пытаннях выканання нормаў антыманапольнага заканадаўства Ігар Луцкі параіў звяртацца ў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь. 19 **лютага** быў атрыманы адказ за подпісам намесніцы старшыні Барысаўскага райвыканкама Марыны Булойчык на зварот Анатоля Букаса да новага кіраўніка мясцовай вертыкалі Генадзя Дзенгалёва з просьбай дапамагчы вырашыць канфліктную сітуацыю, што склалася вакол праблемы заключэння дамоваў на распаўсюд выдання з гарадскімі гандлёвымі аб'ектамі. У прыватнасці, Анатоль Букас скардзіўся на супрацьдзеянне з боку ідэалагічнага аддзела райвыканкама. Ён таксама ўказаў на факты, калі журналістаў "Борисовских новостей" не дапускалі на грамадскія мерапрыемствы, не падпісвалі асартыментны пералік на продаж газеты індывідуальным прадпрымальнікам, блакавалі прадстаўленне інфармацыі. Адказ чыноўніцы ўтрымліваў толькі шэраг спасылак на нормы заканадаўства, такія як свабода ў заключэнні грамадзянскіх дамоваў, распрацоўка і зацвярджэнне асартыментнага пераліку тавараў, правы і абавязкі журналістаў, права звяртацца ў суд у выпадку парушэння правоў.

22 **лістапада** газета "Наша ніва" паведаміла, што ў яе аказаліся копіі распараджэнняў адміністрацыі Савецкага раёна Мінска аб арганізацыі прымусовай падпіскі, дасланых не толькі ў дзяржаўныя, але і ў прыватныя кампаніі. Гаворка ішла пра афіцыйныя газеты, кшталту «СБ. Беларусь сегодня», «Рэспубліка» і «Минский курьер», а таксама прыватны праўладны часопіс «Планета». Адміністрацыя раёна прасіла прадставіць доказы падпіскі ў ідэалагічнае ўпраўленне. Адказны за арганізацыю падпісной кампаніі начальнік упраўлення ідэалогіі Савецкага раёна Віталь Адамовіч у каментары «Нашай Ніве» паведаміў, што гаворкі пра прымус не было: *«Мы толькі інфармуем, што пачынаецца падпісная кампанія»*.

30 **снежня** быў падпісаны Закон Рэспублікі Беларусь "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2019 г.". Ён прадугледжвае фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі у памеры 151 211 151 рублёў (каля 63 млн. еура), што амаль на трацінy больш, чым у мінулым годзе. Пры гэтым 129 699 385 рублёў складае бюджэтная падтрымка тэлебачання. Фінансаванне дзяржаўных СМІ адбываецца на пазаконкурснай аснове.